

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

11 МАЯ 2001г. № 19/4103 КОШТ 127 РУБ.



## БУДЗЬМА РАЗАМ!

Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на "ЛіМ" на другое паўгоддзе 2001 года. Падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 690 рублёў, на тры — 2070 рублёў, на паўгода — 4140 рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 1800 рублёў, на тры — 5400 рублёў, на паўгода — 10800 рублёў.

**Індывідуальны індэкс — 63856.**
**Ведамасны індэкс — 63857.**



Фота А. МАЦЮША

*Зямля — не зменіць і не здрадзіць,*
*Зямля паможа і дарадзіць,*
*Зямля дасць волі і дасць сілы,*
*Зямля паслужыць да магілы,*
*Зямля дзяцей тваіх не кіне,*
*Зямля — аснова ўсёй айчыне.*

**Якуб КОЛАС**



# КОЛА ДЗЁН

***Гэты майскі тыдзень таксама меў у сваім складзе "чырвоны дзень календара" — сераду, 9-га мая. 56-ы Дзень Вялікай Перамогі над фашызмам. Перамогі чалавецтва і чалавечнасці над бесчалавечнасцю і антычалавечнасцю. Вайна з фашысцкай Германіяй забрала дзесяткі мільёнаў чалавечых жыццяў — такіх ахвяраў датуль не пажырала ніводная вайна. Для нашага народа, як і для многіх іншых, яна сталася лёсавызначальнай вяхой, падзяліўшы чалавечыя жыцці на дзве адрозныя палавіны: "да вайны" і "пасля вайны". Подзвіг палеглых і ацалелых у змаганні з карычневай чумой — векавечны, непераходны. І памяць пра іх, мёртвых і жывых, — таксама вечная і святая. І дзень 9-га мая — таксама святы. Дзень радасці і смутку адначасова. Радасці — бо мы перамаглі, выстаялі, адолелі лютага ворага. Ды радасць гэтая, як спяваецца ў песні, "са слязамі на вачах", бо гэта і дзень смутку па загінуўшых, па іх няспраўджаных марах і справах, па ненароджаных і нязнаных іх нашчадках. А ў дадатак гэта дзень смутку яшчэ і ад таго, што пераможцы, на жаль, і дасюль жывуць горш за пераможаных, што Вялікая Перамога мала што змяніла ў жыцці былых франтавікоў, іх дзяцей і ўнукаў, не прынесла на нашую зямлю сапраўднага росквіту, не ўключыла наш народ у вольную сям'ю народаў Еўропы і свету...***

***І ўсё ж дзень 9-га мая застаецца і для нямногіх ужо ветэранаў Вялікай Айчыннай, і для іх нашчадкаў днём святочным, і адзначалі яго паўсюдна на Беларусі — у кожным горадзе і вёсцы, у кожнай хаце і кватэры...***

## ЭНТУЗІЯЗМ ТЫДНЯ

5-га мая ў краіне прайшоў традыцыйны (з даўніх савецкіх часін) працоўны суботнік. Само па сабе наладжваць такія грамадскія мерапрыемствы — мо й няблага. Выйсці грамадою і навесці ўсюды парадак і чысціню, змыць, як кажуць, зімовы бруд (а менавіта такі характар і насіў пераважна суботнік) — у каго павернецца язык сказаць што-небудзь супраць? Але ніякавата робіцца, калі чытаеш у друку пераможныя рэляцыі аб тым, што ў суботніку прынялі ўдзел ні многа ні мала, а акурат 3 мільёны 433 тысячы 958 чалавек! Пабойцеся Бога, спадарове! Ну ці трэба добрую справу зводзіць да такое бюракратычнае дурноты? Хто і як падлічыў — да апошняга чалавека! — усіх удзельнікаў? І эканамічны эфект мерапрыемства таксама наўрад ці варта вызначаць у дакладнай колькасці рублёў: не паддаецца ён такому падліку. Куды красамоўней гавораць на карысць суботніка папрыгажэлыя, пачысцелыя нашы двары, вуліцы, скверы, паркі, наогул нашы вялікія і малыя паселішчы...

## СТАНЦЫЯ ТЫДНЯ

Акурат на гэтым тыдні сродкі масавай інфармацыі паведамілі прыемную для ўсіх мінчукоў (і не толькі для іх) навіну: сталічныя метрабудаўнікі пачалі вымаць грунт пад асноўныя канструкцыі апошняй станцыі метро заходняга накірунку "Каменная горка". Навіна гэтая радасная сама па сабе: людзям, якія жывуць у тым кутку Мінска, неўзабаве пашчасціць карыстацца найлепшым відам гарадскога транспарту. Аднак жа яна радасная і з іншае прычыны. Быў час, калі праца на будаўніцтве мінскай падземкі была амаль спынена, а цяпер вось, дзякаваць Богу, ідзе поўным ходам. Чаму ж не парадавацца?

## ДАТА ТЫДНЯ

Ініцыятыўная група дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў у складзе 20 чалавек абмяркоўвала канкрэтную дату правядзення прэзідэнцкіх выбараў. У часе апошняй сустрэчы група прыйшла да высновы, што найбольш зручнай датай правядзення выбараў з'яўляецца 9-га верасня. Гэтую прапанову група распаўсюдзіла ў СМІ, накіравала ў Савет Міністраў і ў Цэнтральную камісію па правядзенні выбараў і рэферэндумаў. Ці будзе прынята гэтая прапанова? Час пакажа...

## ШАНЦ ТЫДНЯ

Юнакам прызыўнога ўзросту — выпускнікам школ — даецца сёлета шанц для паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Сваю пазіцыю па гэтым пытанні выклаў на сустрэчы з журналістамі міністр абароны генерал-лейтэнант Леанід Мальцаў. Ён сказаў: "Гэта не адтэрміноўка ад прызыву, проста час прызыву павінен выбірацца такім чынам, каб даць гэтым маладым людзям магчымасць здаць уступныя экзамены". Разумная пазіцыя!

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Споўнілася 5 гадоў з часу выхаду першага нумара часопіса "Армія". Падзяляючы радасць калег — супрацоўнікаў часопіса Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, усё ж мусім звярнуць увагу на адзін нюанс. На той самы, пра які мы ўжо неадночы гаварылі — моўны. І даўняя газета "Во Славу Родины" (колішні орган былой ЧБВА), і новы часопіс "Армія" (пачаў выходзіць у 1996 годзе) — выдання рускамоўныя. Чаму? У нас жа армія не наёмная, а свая, родная, беларуская...

## ПРАЎДА ТЫДНЯ

Усцешыла (ці пацешыла?) "Народная газета" за 8 мая г. г. На першай старонцы змешчана інфармацыя з Іванаўскага раёна. Там прайшоў раённы сход "упаўнаважаных працоўных калектываў", які выбраў дэлегатаў на другі Усебеларускі народны сход. Інфармацыя мае такую назву: "Народ прадстаўляць кіраўнікі". Чыстая, ці лепш сказаць — святая праўда! Сярод 12 дэлегатаў Іванаўшчыны — старшыня райвыканкама, старшыня сельвыканкама, сакратар райкама КПБ, сакратар райкама БПСМ і г. д. З так званых "простых людзей" — трое: работнік жыллёва-камунальнай гаспадаркі, брыгадзір ПМК і пенсіянер. Дарэчы, і на сходзе "упаўнаважаных" рабочых і калгаснікаў было менш чым 18 працэнтаў. Усё правільна. Гэта ж не савецкі час, калі памяталі і кіраваліся ленінскім выслоўем аб тым, што кожная кухарка павінна ўмець кіраваць дзяржавай...

## ЛАЎРЭАТЫ ТЫДНЯ

Падведзены вынікі творчага конкурсу на лепшае асвятленне ў друку пытанняў патрыятычнага выхавання і ваеннага будаўніцтва, які праводзілі Міністэрства абароны, Дзяржкамдрук, Саюз журналістаў. Пераможцамі сталі калектывы рэдакцый газет "Во славу Родины" і "Навіны Старадарожчыны", а таксама "Белорусская нива", "Віцебскі рабочы", пружанскія "Раённыя будні", "Мінская праўда", баранавіцкі "Наш край", "Слуцкі край" і "Слонімскі веснік". Пра іх і пераможцаў розных іншых конкурсаў і спаборніцтваў СМІ ў пярэдадзень Дня друку шырока паведамлялася. А вось пра пераможцаў творчага конкурсу памяці таленавітага публіцыста Анатоля Майсені, які штогод праводзіць "Народная воля" і Беларуская асацыяцыя журналістаў, паведаміла толькі сама "Народная воля". Сёлета пераможцамі конкурсу сталі Віктар Дашук, Уладзімір Глод і Марына Коктыш. Ад душы віншуем, няхай і са спазненнем, усіх!

---

ДАТЫ

## *У дзень Перамогі*

*Мінулага хвалюе адгалосse*
*У шэрагу святочных дат.*
*Як мала ўжо вас сёння*
*засталося,*
*Франтавікоў, былых салдат!*

*Хто вамі перажытае ахопіць,*
*Хто ўявіць кошт*
*душэўных страт?*
*Вяртаюць сны ў крывавыя акопы*
*Франтавікоў, былых салдат.*

*І успамін — знак горычы і болю*
*Настроіць на журботны лад.*
*Ніхто ў той час не здолеў болей,*
*Чым франтавік, былы салдат.*

*Стаю ля помніка я, абеліска,*
*І урачысты мой пагляд.*
*Схіляю галаву я нізка-нізка*
*Перад табой, вайны салдат.*

**Яўген КАРШУКОЎ**

## *Франтавікам*

***Вы для мяне — мае браты старэйшыя.***
***Вас мала засталося у жывых.***
***Кагорта ваша***
***З кожным годам меншае,***
***Нібы пасля прарываў штурмавых.***

***Хрышчоныя Айчыннаю вайною,***
***Не ціснуліся вы на дно траншэй,***
***А сёння вы ў кальцы гадоў, якое***
***Змыкаецца, сціскаецца тужэй.***

***Адно ў вас застаецца суцяшэнне:***
***Сяброў і наступленні ўспамінаць.***
***А маладых гадоў, як папаўнення,***
***Час не дае. Няма адкуль чакаць.***

***Цярплівыя. Такое пакаленне!***
***Вы паяднаны лёсам франтавым.***

***Не верыцца мне ў тое***
***акружэнне,***
***З якога вам не вырвацца, жывым***

***А Май, што вы прынеслі***
***ў сорак пятым,***

***Краіну асвятляе зноў і зноў,***
***Як найвялікшай***
***Перамогі свята,***
***Ён не памеркне***
***ў далечы гадоў.***

**Юрась СВІРКА**



*Фота М. ПРУПАСА*

---

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Асаблівую ўвагу ў справаздачным перыядзе, як паведамляе сакратар Брэсцкага абласнога аддзялення СБП Алесь Каско, удзялялі ў Прыбужжы кнігавыданню. Усяго 4 кніжкі аўтараў-берасцейцаў за тры гады выйшлі ў Мінску, і 25 — у Брэсце, з іх 10 — у серыі "Берасцейскае вогнішча", заснаванай аддзяленнем. Сярод самых адметных выданняў гэтай серыі — анталогія сучаснай берасцейскай паэзіі "Дзядзінец" (складальнік і рэдактар М. Пракаповіч). У ёй — падборкі вершаў 53 аўтараў. І ўсе астатнія зборнікі паэзіі, прозы, дакументалістыкі выходзілі пры самай актыўнай арганізацыйнай і творчай падтрымцы аддзялення, і найперш — яго сакратара.

Імпрэзы, сустрэчы з з чытачамі ладзіліся ў пераважнай большасці ў форме прэзентацыі кніг — у Брэсце або на радзіме аўтара. Фактычна кожная новая кніжка мела сваю аўдыторыю. Апрача таго, сябры аддзялення ахвотна адгукаюцца на запрашэнні вучнёўскіх, студэнцкіх, працоўных калектываў, нярэдка самі з'яўляюцца ініцыятарамі сустрэч. Ужо тры гады літаратурная сябрына шэфствуе над санаторыем-прафілакторыем "Чырвоны Двор", дзе папраўляюць здароўе школьнікі чарнобыльскай зоны. Цесныя ў яе кантакты з мясцовым універсітэтам, цэнтрам маладзёжнай творчасці, абласной і раённымі бібліятэкамі, школамі.

Аддзяленне прымае непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні штогадовага абласнога фестывалю "Берасцейскія зоркі", шматлікіх творчых конкурсаў, традыцыйных калесніцкаўскіх чытанняў у Брэсце і свята паэзіі Блока на Піншчыне.

Немалая ўвага ў справаздачным перыядзе надавалася творчай вучобе і працы з маладымі. Аддзяленнем СБП і Цэнтрам маладзёжнай творчасці былі праведзены тры конкурсы юных літаратараў "Дэбют" і выдадзены верш дэбютантаў "Палёт жаўрука" (складальнікі А. Каско, А. Дэбіш). У рамках сёлетняга конкурсу быў наладжаны абласны семінар маладых літаратараў.

Штомесяц праводзіліся сумесныя пасяджэнні аддзялення і абласнога літаб'яднання. У 2000 годзе праведзены сумесныя пасяджэнні з Іванаўскім літаб'яднаннем "Ясельда", а таксама з Брэсцкай маладзёжнай студыяй "Спадчына". Вынікам першага з іх стала падрыхтоўка зборніка твораў іванаўскіх літаратараў "Ясельда".

У полі зроку аддзялення былі і ўмовы працы і быту пісьменнікаў. Па іх ініцыятыве сумесна з кіраўніцтвам саюза была выдзелена кватэра для М. Купрэева, атрымалі магчымасць будаваць кааператыўнае жыллё браты Дэбішы.

**Н. К.**

●

Іх, на жаль, з кожным годам становіцца ўсё менш — ветэранаў Вялікай Айчыннай, тых, хто прайшоў франтавымі дарогамі ці ляснымі партызанскімі сцяжынамі свой гераічны шлях змагання з захопнікамі роднага краю. І ў пісьменніцкіх шэрагах былых воінаў парадзела. Але па традыцыі перад Святам Перамогі яны прыйшлі ў свой саюз, каб сустрэцца, разам узгадаць былое, паспяваць любімыя песні.

Дваццаць тры пісьменнікі-ветэраны напярэдадні свята атрымалі грашовую дапамогу ад Беллітфонду. Іх віталі в. а. старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Іпатава, намеснікі старшыні Н. Гальпяровіч і У. Мачульскі, для іх спяваў кампазітар Алег Чыркун. Гучалі вершы паэтаў-франтавікоў, песні, успаміны.

Свята атрымалася цёплым і душэўным.

**Н. К.**

---

АНОНС

# "Музам" папярэднічае... "Панна"

## 12-13 МАЯ Ў НЯСВІЖЫ ШОСТЫ РАЗ ПРОЙДЗЕ РЭСПУБЛІКАНСКІ ФЕСТЫВАЛЬ КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ

У "Музаў Нясвіжа" — свае традыцыі, якія сфарміравалі адметнае аблічча гэтага фестывалю, зладкаванага па ініцыятыве Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, на чале з маэстра М. Фінбергам. Паводле традыцыі праграмы "Музаў Нясвіжа" рыхтуюцца пераважна камернымі калектывамі, што працуюць у структуры Дзяржаўнага канцэртнага. Вось і сёлета адбудуцца выступленні Камернага аркестра пад кіраўніцтвам В. Сарокі, Актэта драўляных духавых інструментаў (мастацкі кіраўнік Б. Нічкоў), ансамбляў "Сірынкс" (мастацкі кіраўнік Н.Аўраменка) ды "Інтрада" (мастацкі кіраўнік М. Волкаў). Як заўсёды, запрошаны іншыя мастацкія калектывы: Акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы пад кіраўніцтвам Л. Яфімавай, капэла "Sonorus" пад кіраўніцтвам А. Шута, "Ігуменскія крыніцы" Чэрвеньскай дзіцячай школы мастацтваў (з праграмай "Музычная спадчына Беларусі").

Адпаведна традыцыі, кожны год фестываль мае пэўную канцэпцыю. Сёлета ён пройдзе пад знакам музычнага мастацтва Беларусі эпохі класіцызму ды рамантызму. У канцэртах, якія будзе весці музыказнаўца В. Дадзіёмава, прагучаць творы М. Радзівіла, Н. Орды, М. Кл. Агінскага, С. Манюшкі, Э. Ванжуры, М. Ельскага ды іх спадкаемцаў — нашых сучаснікаў Г. Гарэлавай, У. Каральчука, А Літвіноўскага, І. Лучанка, С. Хвашчынскага і інш. Як заўсёды, адбудзецца навуковая канферэнцыя (тэма — "Мастацкая спадчына Беларусі: шляхі і перспектывы даследавання") з удзелам вядучых спецыялістаў краіны, адкрыецца выстаўка беларускіх мастакоў. А своеасаблівай прэлюдыяй фестывалю будзе абвешчаны на сёння паказ прэм'еры спектакля "Чорная панна Нясвіжа" паводле п'есы А. Дударава ў пастаноўцы мясцовага народнага тэатра.

**Н. К.**

ВІНШУЕМ!

# Лаўрэаты Дзяржаўных прэмій

7 мая, напярэдадні вялікага свята Дня Перамогі, у Палацы Рэспублікі адбылося ўручэнне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь за 2000 год. На ўрачыстасць прыйшлі не толькі самі лаўрэаты, але і многія прадстаўнікі навуковай і творчай інтэлігенцыі, чые імёны вядомыя не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. Віншаваў лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій і ўручаў узнагароды Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Сярод лаўрэатаў і даўнія аўтары "ЛіМа" — пісьменнікі **Уладзімір Скарынкін, Мікола Кусянкоў, Уладзімір Ліпскі,** мастакі **Валеры Славук** і **Мікалай Казакевіч,** а таксама навукоўцы **Іван Яшкін, Святлана Лобач, Вадзім Круталевіч** і іншыя.

Ва ўрачыстасцях удзельнічаў Дзяржаўны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга.



*На здымку: А. Лукашэнка віншуе з узнагародай Уладзіміра Скарынкіна, паэта-перакладчыка.*
**Фота Г. СЯМЁНАВА, БЕЛТА**

# Лаўрэаты прэмій Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай 2001 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і самадзейнай творчасці

**28 красавіка Прэзідыум Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай прысудзіў прэміі 2001 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і самадзейнай творчасці з наданнем звання лаўрэата, уручэннем Ганаровага знака, дыплома і грашовай узнагароды:**

**І. За творы прозы**

**Лук'янаву Мікалаю Піліпавічу,** пісьменніку — за кнігу "І цемра адступіла...", апублікаваную ў 1999 годзе.

**ІІ. За творы паэзіі**

**Чарняўскаму Мікалаю Мікалаевічу,** паэту, літаратурнаму рэдактару часопіса "Вясёлка" — за кнігу "Хто пакрыўдзіў кракадзіла?", апублікаваную ў 1999 годзе.

**ІІІ. За музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць**

**Дрынеўскаму Міхаілу Паўлавічу,** народнаму артысту Беларусі, мастацкаму кіраўніку Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча, прафесару — за канцэртныя праграмы 1997—2000 гадоў Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча.

**VІ. За работы ў галіне тэатральнага мастацтва**

**Мішчанчуку Уладзіміру Андрэевічу,** заслужанаму артысту Рэспублікі Беларусь, дэкану тэатральнага факультэта, прафесару Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў — за плённы ўклад у выхаванне моладзі і сыграныя ролі ў тэатры, кіно, на тэлебачанні.

**Траяну Юрыю Антонавічу,** народнаму артысту Беларусі, намесніку дырэктара па рабоце з балетнай трупай Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Рэспублікі Беларусь — за падрыхтоўку выканаўцаў вядучых роляў у балетах "Спартак", "Сотворение мира", "Щелкунчик", "Кармен-сюита".

**V. За работы ў галіне кінамастацтва**

**Аслюку Віктару Мікалаевічу,** рэжысёру студыі "Летапіс" Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" — за створаныя ў 1998—1999 гадах хранікальна-дакументальныя фільмы "Добры вечар, сад, сад..." і "Андреевы камни".

**VІ. За творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва**

**Паўлаўцу Вячаславу Генадзьевічу,** мастаку-графіку, мастацкаму рэдактару часопіса "Мастацтва" — за серыю акварэляў "Мара аб Радзіме", створаную ў 1998—2000 гадах.

**Пятруль Людміле Іванаўне,** мастачцы, выкладчыцы дзіцячай школы мастацтваў г. Мінска — за габелен "Лёс" — трыпціх, выкананы ў 1996—1997 гадах

**VІІ. У галіне журналістыкі**

**Гібкоўскаму Аляксандру Сямёнавічу,** рэдактару аддзела часопіса "Беларусь" — за цыкл філасофска-публіцыстычных матэрыялаў "Анатомія жыцця" ў часопісе "Беларусь", апублікаваных у 1997—2000 гадах.

**VІІІ. За актыўную работу па развіцці народнай культуры і самадзейнай творчасці працоўных**

**Бічэўскай Таццяне Рыгораўне** — дырэктару Палаца культуры шклозавода "Нёман", г. Бярозаўка.

**Лапыш Людміле Васільеўне** — загадчыцы бібліятэкі Дома культуры адкрытага акцыянернага таварыства "Фандок", г. Бабруйск.

**ІХ. За высокія дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці**

**Народнаму ансамблю песні і танца "Брэстаўчанка"** адкрытага акцыянернага таварыства "Брэсцкі электрамеханічны завод (мастацкі кіраўнік — **Рагоўская Алена Станіславаўна).**

**Народнаму ансамблю танца "Белая Русь"** цэнтра мастацкай творчасці навучэнскай моладзі "Юнацтва" (мастацкі кіраўнік — **Карповіч Анатоль Леанідавіч).**

# Беларускія імёны германскіх прэмій

Леташнім маем памерла беларуская журналістка і пісьменніца Ганна Краснапёрка. На шаснаццатым годзе жыцця ў ліпені 1941-га ёй выпала апынуцца за дротам гета, створанага гітлераўцамі ў акупаваным Мінску. Пра жудасныя васемнаццаць месяцаў у чорнай няволі, пакуль не пашчасціла разам з маці і сястрычкай адтуль вырвацца і знайсці паратунак у партызанскім лесе, яна расказала ў пранізлівай кніжцы "Пісьмы маёй памяці", якая ў 1984 годзе была выпушчана выдавецтвам "Мастацкая літаратура".

Кніжка атрымала шырокі розгалас. З цёплай прадмовай Васіля Быкава друкавалася на рускай мове ў часопісе "Дружба народов". Апублікавана была таксама на яўрэйскай і нямецкай мовах. У Германіі вытрымала чатыры выданні. Аўтарка шмат разоў ездзіла туды для сустрэч з чытачамі, стала ўдзельнічала ў грамадскай рабоце па ўзвядзенні "мастоў" узаемаразумення і дружбы паміж народамі, гісторыя дачыненняў між якімі мела ў мінулым змрочныя перыяды.

Ва ўшанаванне памяці беларускай пісьменніцы, у падзяку за зробленае ёю, грамадскае аб'яднанне "Рабочая група беларуска-нямецкіх сустрэч", якое разгарнула сваю чыннасць у Германіі, заснавала для журналістаў і гісторыкаў штогадовую прэмію імя Ганны Краснапёркі.

Гэтым жа грамадскім аб'яднаннем заснавана прэмія імя Барыса Кіта. Пасля дзесяцігоддзяў замоўчвання пра Барыса Уладзіміравіча Кіта на радзіме пра яго зноў гавораць і пішуць з павагай і гонарам. Былы настаўнік матэматыкі ў беларускіх гімназіях Вільні і Навагрудка, ён вырас у ЗША ў вучонага сусветнага маштабу, праўдзейнага і ганаровага акадэміка найпрэстыжных акадэмій Еўропы і Амерыкі, даследчыка, які шмат зрабіў для развіцця касманаўтыкі. Жывучы цяпер у Германіі, Барыс Кіт у свае больш як дзевяноста гадоў застаецца ў беларускай дыяспары дзейным патрыётам роднага краю.

1 мая ў Берліне адбылося ўрачыстае ўручэнне названых прэмій. Прэміяй імя Ганны Краснапёркі ўганаравана дацэнт факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта **Ірына Тоўсцік,** прэміяй імя Барыса Кіта дацэнт Беларускага універсітэта культуры, пісьменніца **Лідзія Савік.**

**Н. К.**

*ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКАЯ ТРЫБУНА*

# Час вызначыць прарока

Мяркую, будзе да месца на пісьменніцкім сходзе паставіць і такое пытанне: дакуль у выдавецтве "Мастацкая літаратура" за дзяржаўны кошт будуць выдавацца кнігі адных і тых жа аўтараў? Магчыма, хопіць ужо нашаму чытачу паэтычных зборнікаў розных аб'ёмаў адных і тых.

Даўно настаў час выдаць салідны том сачыненняў (вершы і проза) М. Купрэева, Л. Галубовіча. Калі ў рэшце рэшт у "Мастацкай літаратуры" выйдзе хоць адна кніга Анатоля Шушко? Трыццаць (!) гадоў таму ён дэбютаваў у "ЛіМе" таленавітай падборкай вершаў з блаславеннем у вялікую літаратуру сапраўднага знаўцы паэзіі В. Бечыка. Але з таго часу А. Шушко ўдалося выдаць адзін-адзіны зборнічак вершаў у бібліятэчцы "Маладосці".

Падобных прыкладаў у нашай выдавецкай практыцы аж занадта. Думаю, што цяпер не час і прыжыццёвых выданняў Збораў твораў. Тым больш, што зусім перасталі выходзіць альманахі "Дзень паэзіі", "Далягляды" і іншыя калектыўныя зборнікі.

І ўжо зусім непрыгожа забывацца на памерлых: С. Гаўрусёва, М. Стральцова, М. Рудкоўскага, іншых дастойных паэтаў і празаікаў.

Няхай даруюць мне сённяшнія "народныя" і іншыя "жывыя класікі", але дазволю сабе нагадаць даўно вядомае: час і толькі час (і людзі, вядома) вызначае Прарока (пракараў). У сваёй Айчыне — у першую чаргу.

**Валерый ГРЫШКАВЕЦ**
*г. Пінск*

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## На сцэне — камедыя

Шчаслівы лёс у камедыі Васіля Ткачова "Шкірдзюкі займаюць абарону". Упершыню яна была пастаўлена на сцэне мазырскага гарадскога драмтэатра імя І. Мележа, а пасля адразу ў некалькіх самадзейных калектывах. І вось — новая прэм'ера. Яна адбылася ў вёсцы Гадзілавічы Рагачоўскага раёна дзякуючы загадчыцы мясцовай бібліятэкі Алене Заморскай, якая ўжо не ўпершыню прадэманстравала перад землякамі добрае рэжысёрскае майстэрства. А на сцэне вызначыліся талентам калгаснікі-пенсіянеры Васіль Казадоеў, Мікалай Макарчыкаў, настаўніцы Лілія Ракутова, Таццяна Віннікава, Рыта Вярбіцкая, Алеся Гаўрылава і тэхработнік клуба Алена Саковіч. Землякі вельмі цёпла прынялі новую пастаноўку самадзейных артыстаў. Высока ацаніў іх майстэрства і аўтар, які прысутнічаў на прэм'еры.

**Валянціна АРДАШАВА**

## Паэту — пяцьдзесят

Раённая бібліятэчная сістэма адзначае 50-годдзе паэта-земляка Міхася Башлакова. У бібліятэках раёна арганізаваны тэматычныя кніжныя выставы "З думай пра Беларусь", "Паэт заўсёды ёсць прарок", "Жыццё з любові, працы і пакут"... Рыхтуецца вялікае свята паэзіі, якое пройдзе ў раённай бібліятэцы 19 мая. На літаратурнай вечарыне прагучаць вершы, напісаныя Міхасём Башлаковым за апошнія гады і ўключаныя ў нядаўна выдадзены зборнік пад назвай "Світальныя коні",

**Наш кар.**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Поспех фотастудыі

Жыхары заходнегерманскага горада Хайдэнхайма зямлі Вюртэнберг пазнаёміліся з работамі магілёўскіх фотамастакоў яшчэ летась. Фатограф Рольф Мендэль, кіраўнік гарадской галерэі, запрасіў магіляўчан паўдзельнічаць у выставе "Сто фатографаў свету". У Хайдэнхайм было адпраўлена пяць работ. Аляксандр Ліцін атрымаў медаль нямецкага Саюза фотамастакоў. А работа Мірона Шчудла ўпрыгожыла праспект выставы...

А ў сакавіку гэтага года ў галерэі Рольфа Мендэля было выстаўлена ўжо каля 50 работ дзевяці магілёўскіх фотамастакоў-удзельнікаў "Студыі 3Plus". Работы атрымалі высокую ацэнку. Сёлета "Студыя 3Plus" адзначае дзесяцігоддзе. У абласным цэнтры з гэтай нагоды пройдзе юбілейная выстава.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Ілюзіён і фея

Даўняе і трывалае сяброўства існуе паміж Брэсцкім і Гродзенскім абласнымі тэатрамі лялек. Каб замацаваць ранейшыя стасункі, тэатральныя калектывы вырашылі абмяняцца гастролямі.Гарадзенцам брэсцкія лялечнікі прапанавалі свой апошні прэм'ерны спектакль "Маленькая Фея" паводле В. Рабадана (пастаноўка З. Нуянзіна, лялькі і сцэнаграфія М. Данько, музыка Н Туміловіч). У сваю чаргу гарадзенская група прывезла ў горад над Бугам таксама адзін са сваіх лепшых спектакляў "Неверагодны ілюзіён" у пастаноўцы А. Жугжды (лялькі і сцэнаграфія Л. Быкава). Трэба адзначыць, што ад такога культурніцкага абмену засталіся задаволенымі як гледачы абодвух гарадоў, так і непасрэдныя ўдзельнікі гастроляў.

**І. Х.**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Мовай музыкі

У Лідскай педвучэльні адбылася музычная вечарына, на якой былі прадстаўлены музычныя традыцыі беларускага, рускага, польскага і яўрэйскага народаў. Аб іх асаблівасцях і развіцці расказала Б. Дзвілянская. А потым сваё майстэрства паказалі вядомыя мастацкія калектывы: ансамбль пад кіраўніцтвам Васіля Сечкі, народны хор музвучэльні на чале з Тамарай Харашылавай, народны ансамбль "Крэсавяцы" (кіраўнік Станіслаў Янушкевіч) і ансамбль "Шалом" (кіраўнік Міхаіл Дзвілянскі).

## За духоўнае адраджэнне

Шмат набыткаў на ніве духоўнага адраджэння мае сямейны ансамбль Сахоняў з Ліды. Народны калектыў — жаданы госць у горадзе, у сваім і суседніх раёнах. Як хораша выконвае ён беларускія і польскія народныя песні! Невыпадкова спеўныя Сахоні летась двойчы выязджалі ў Польшчу і з поспехам выступілі там з канцэртамі.

За дабрачыннасць і ўклад у духоўнае адраджэнне кіраўніку народнага ансамбля Леакадзіі Сахонь нядаўна ўручаны памятны знак "2000-годдзе Хрысціянства". Такой жа пачэснай адзнакі па рашэнні рэспубліканскага аргкамітэта па святкаванні вялікага юбілею ўдастоены таксама народны ансамбль "Каханачка" з Малога Мажэйкава, Дакудаўская сельская бібліятэка і мастак шклозавода "Нёман" Уладзімір Мурахвер.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## "Залатое пяро"

У Віцебску прайшоў ІХ рэспубліканскі фестываль беларускай журналістыкі "Залатое пяро". Акрамя журналістаў мясцовых і абласных выданняў, радыё і тэлебачання, на свята прыехалі старшыня Беларускага Саюза журналістаў Л. Екель, галоўныя рэдактары многіх вядучых беларускіх газет і часопісаў. Яны пазнаёміліся з гісторыяй і культурай Прыдзвінскага краю, з першых вуснаў даведаліся аб стане аграпрамысловага комплексу.

— Бяда нашага брата-журналіста ў тым, што ён страчвае магчымасць здзіўляцца, дазваляе сабе не бачыць таго цудоўнага, што адбываецца на зямлі, — заўважыў на адкрыцці ўрачыстай цырымоніі ўручэння прэмій "Залатое пяро" Л. Екель.

## Беларусь Міхася Ляўковіча

У Літаратурным музеі абласнога цэнтра адкрылася выстава мастака Міхася Ляўковіча. Прэзентацыя праходзіла ў тэатралізаваным стылі: гучалі народныя спевы і "Магутны Божа", сабраліся прыхільнікі роднага слова і інтэлігенцыя Віцебска. Мастак парадаваў сваімі новымі творамі "Рагнедзе прысвячаецца", "Калядоўшчыкі", "Дзяды", "На радзіме Дударава", "Поле Караткевіча".

## Майстар Маргарыта

У Віцебскім мастацкім музеі адкрылася выстава карцін самадзейнай мастачкі Маргарыты Сейфугаліевай. Сярод калекцый майстроў пэндзля работы сябра народнага клуба "Контур" занялі пачэснае месца. Упершыню Маргарыта, дзіцячы ўрач па адукацыі, села за мальберт у бальзакаўскім узросце. І першая яе карціна "Мама ў раі", напісаная з вялікай цеплынёй, стала самай любімай для мастачкі.

**Святлана ГУК**



**ЧАСАПІС**

## Летапісец нашай славы

**У кожнага народа ў пэўны перыяд жыцця з'яўляецца чалавек, які імкнецца данесці праўду пра гістарычнае мінулае, ягоную славу і веліч. Такім чалавекам для беларусаў з'яўляецца Мікола Ермаловіч, асоба амаль легендарная, 80-я ўгодкі ад нараджэння якога шырока адзначаліся па ўсёй нашай краіне.**

**А нарадзіўся Мікола Ермаловіч 29 красавіка 1921 года ў вёсцы Малыя Навасёлкі на Дзяржыншчыне ў сялянскай сям'і. Скончыў Дзяржынскую сярэднюю школу і філфак Мінскага педінстытута. У час Вялікай Айчыннай вайны жыў і працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў вёсцы Лабаскі Мардоўскай АССР. З кастрычніка 1943 года — інспектар райана ў г. Суражы Віцебскай вобласці, потым — завуч у сярэдняй школе г. Дзяржынска. У 1948—57 — у Маладзечне, дзе выкладаў у настаўніцкім інстытуце, а затым у Інстытуце ўдасканалення настаўнікаў. У 1957 годзе выйшаў на пенсію ў сувязі са значнай стратай зроку. Жыў у Маладзечне. а кожны дзень ездзіў у Мінск, каб працаваць у сталічных музеях, архівах і бібліятэках.**

**Вынікам такіх паездак сталі кнігі "Па слядах аднаго міфа", "Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды", "Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд", "Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае".**

**У сваіх творах аўтар абгрунтавана абверг тэзіс аб так званым літоўскім заваяванні беларускіх зямель, ўдзельніцтве літоўскіх феадалаў над Беларуссю, вызначыў Наваградак, як цэнтр утварэння і сталіцу ВКЛ, ён дэталізавана падаў гісторыю развіцця Беларусі са старажытных часоў да канца XVIII стагоддзя. Памёр ганаровы грамадзянін г. Маладзечна, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя К. Каліноўскага Мікола Ермаловіч 5 сакавіка 2000 года і пахаваны на старых гарадскіх могілках.**

**На працягу ўсяго свайго свядомага жыцця М. І. Ермаловіч плённа супрацоўнічаў з айчыннымі архівамі і бібліятэкамі. У тым ліку і з нашымі, маладзечанскімі. Неадноўчы бываў на розных пасяджэннях, вечарынах, сустрэчах, якія праводзіліся ў Маладзечанскай цэнтральнай р аённай бібліятэцы. Стаяў ля вытокаў стварэння яе літаратурна-краязнаўчага аб'яднання "Жывіца", якое плённа працуе з 1988 года**

**Таму і не дзіўна, што першая ўрачыстая вечарына, прысвечаная памяці нашага славутага земляка, была праведзена намаганнямі супрацоўнікаў Цэнтральнай раённай бібліятэкі. І адбылася яна ў Лебедзеўскай сярэдняй школе. Пры перапоўненай зале, дзе сабраліся вучні і настаўнікі школы, жыхары мястэчка, была паказана літаратурна-мастацкая кампазіцыя паводле біяграфічных і гістарычных фактаў з жыцця выдатнага гісторыка. На прыгожа аздобленай сцэне з партрэтам гісторыка работы мастачкі раённай бібліятэкі Алены Каўбасюк, арганічна і нязмушана ўпляталіся ў канву літаратурнага аповеду выступленні навучэнцаў і выкладчыкаў Лебедзеўскай музычнай школы.**

**Пяшчотныя гукі цымбалаў і лірычна-патрыятычнае гучанне вершаў цудоўна перадавалі стан беларускай народнай душы і веру ў тое, што памяць аб Вялікім Беларусе застанецца назаўсёды ў нашых сэрцах. Што, дарэчы, і пацвердзіла выступленне вядомага пісьменніка, краязнаўца, шаноўнага госця з Мінска Уладзіміра Содаля, які вельмі абгрунтавана і пераканаўча давёў, што праца Ермаловіча не прапала дарэмна, што ён "амаль сляпы чалавек адкрываў нам, відушчым, вочы на праўдзівую гісторыю нашай Бацькаўшчыны". І ў гэтым яго грамадзянскі подзвіг і велічны прыклад для наступных пакаленняў.**

**Наталля ПЛОТАВА**

## Вечарына маладых літаратараў

**<u>11 мая а 18-й гадзіне ў сталічным Доме літаратара (Фрунзе,5)</u> у рамках Рэспубліканскага семінара маладых літаратараў пройдзе паэтычная вечарына. У мерапрыемстве возьмуць удзел Мікола Мятліцкі, Навум Гальпяровіч, Леанід Дранько-Майсюк, Андрэй Гуцаў, Віктар Слінко і інш. У праграме: прэзентацыя кнігі "Анталогіі маладога верша", якая выйшла ў выдавецтве "Ураджай", выступ музычных гуртоў "Ля бомба" і "Барадаты Грынвіч".**

РОЗГАЛАС

# Прыкрая памылка

Канец тысячагоддзя для ўсіх праваслаўных вернікаў, спецыялістаў і аматараў гісторыі архітэктуры быў адзначаны выхадам энцыклапедычнага даведніка А. Кулагіна "Праваслаўныя храмы на Беларусі", выдадзенага Беларускай Энцыклапедыяй. Сама задача сабраць у адным выданні інфармацыю пра ўсе храмы, якія існавалі раней і дзейнічаюць цяпер, даволі складаная нават для калектыву аўтараў. Што ж казаць пра спробу аднаго, няхай і буйнога гісторыка архітэктуры сабраць, апісаць і ахарактарызаваць такую вялікую колькасць аб'ектаў! Відаць, аўтар хацеў ускочыць на прыступку цягніка пад назвай "2000-годдзе Раства Хрыстова" і што б там ні было адзначыць круглую дату сваёй кнігай. Што ж, кожнаму сваё. Мяне, як аўтара аднаго з аб'ектаў, апісаных у згаданым даведніку, не змог не збянтэжыць артыкул, прысвечаны **майму** аб'екту. Тут і спасцігла мяне глыбокая журба.

Па-першае, пра назву артыкула. Уся інфармацыя, прыведзеная А. Кулагіным, датычыць царквы, якой яшчэ няма (с. 132. Свята-Георгіеўская царква). Праілюстраваны ж артыкул фотаздымкам іншай царквы, якая ўваходзіць у мінскі Свята-Георгіеўскі прыход. Гэта храм у гонар Мінскай іконы Божай Маці, у той час, як аўтар артыкула называе гэтую царкву Свята-Георгіеўскай.

У храме няма ні высокага подыума, ні арачных праслаў, ні лесвічнага каскада, якія апісвае А. Кулагін. Незразумела таксама, дзе ў царквы "франтальны бок".

Па-другое, храм у гонар Мінскай іконы Божай Маці аднесены А. Кулагіным да неарускага стылю. Але чаму? З якой нагоды? У канцы свайго выдання аўтар дае тэрміналагічны слоўнік. Адпаведна з ім, неарускі стыль — з'ява мяжы 19—20 стст. Архітэктары неарускага стылю стваралі "архітэктурна-мастацкі вобраз, асацыятыўна звязаны з першакрыніцай" (с. 325). Якімі ж некампетэнтнымі і непрафесійнымі павінны быць сённяшнія праекціроўшчыкі, не кажучы ўжо пра заказчыкаў, каб стварыць у 21 ст. храмы ў стылі, што існаваў у пачатку мінулага стагоддзя. Атрымліваецца, што архітэктура царквы ў гонар Мінскай іконы Божай Маці ўдвая другасная.

Калі б памыліліся толькі я і заказчык, гэта была б наша праблема. Але па выніках агляду-конкурсу на лепшае збудаванне ў намінацыі "Культавыя будынкі", што адбыўся ў лістападзе 2000 г. у рамках Фестывалю архітэктуры, сярод мноства канкурсантаў менавіта гэтая царква была названа лепшай. Я ўпэўнены, што калі архітэктар, які праектуе храм, выкарыстае формы і элементы стылю, што даўно адышлі, нічога, акрамя падробкі, у яго не атрымаецца.

Цяпер жа я вымушаны апраўдвацца перад калегамі, а таксама людзьмі, якія чытаюць гэты артыкул. Таму я заяўляю, што ніякіх адносін да неарускага стылю храм Мінскай іконы Божай Маці не мае. Наадварот, аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя мінскага храма блізкая да сусветна вядомых помнікаў праваслаўна-царкоўнага дойлідства Беларусі — Міхайлаўскай царквы ў Сынкавічах, царквы Раства Багародзіцы ў Мураванцы, Благавешчанскай царквы ў Супраслі. У дэкаратыўным вырашэнні царквы я хацеў выявіць менавіта беларускі дух. Мне пашчасціла ў свой час займацца вывучэннем побыту беларускага народа і яго архітэктуры. Гэта сапраўды невычэрпная крыніца выяўленчых сродкаў! У аснову архітэктурна-пластычнага вобраза храма і была пакладзена старажытная і найбольш яркая старонка народнага мастацтва — ткацтва, менавіта беларускія ручнікі, якімі ўпрыгожвалі простыя сялянскі побыт. Мае "каменныя ручнікі" нібы апаясваюць абодва ярусы царквы, аздабляючы яе і надаючы ёй менавіта беларускі каларыт.

Па-трэцяе, чамусьці фатаграфія іканастаса храма ў гонар Мінскай іконы Божай Маці ілюструе зусім іншы артыкул, прысвечаны царкве ў гонар іконы "Маці Божай Уладзімірскай" (с. 137).

Па-чацвёртае, у даведніку, на жаль, ёсць яшчэ шэраг памылак, што тычацца іншых аб'ектаў.

І, нарэшце, пытанне этыкі. А. Кулагін не



тое што не пажадаў пагаварыць з аўтарам праекта храма і пазнаёміць яго са сваім бачаннем архітэктурнай кампазіцыі, але нават не згадаў імя аўтара ў сваім артыкуле.

Дзіўна, што такое сур'ёзнае выданне, як звод усіх праваслаўных цэркваў Беларусі, прайшоў міма Экзархата, без удзелу царкоўных гісторыкаў і архітэктараў. Я ўпэўнены, што многія артыкулы выклікалі б нязгоду. Шкада, што зноў нашаму народу даводзіцца задавальняцца чарговай хуткаспелай прадукцыяй.

**А. ТРУХІН**
**архітэктар, лаўрэат Фестывалю "Архітэктура-2000"**

*На здымку: царква ў гонар Мінскага абраза Божай Маці, памылкова названая ў кнізе А. Кулагіна Свята-Георгіеўскай.*

СУСТРЭЧЫ

# Пад знакам "Вясёлкі"

Шчыра ганарацца любанцы сваімі знакамітымі землякамі. І найперш, вядома, тым, што на іх зямлі, у вёсцы Смольгава, нарадзіўся выдатны паэт і краязнавец Уладзіслаў Сыракомля, якога яшчэ пры жыцці называлі "сапраўдным паэтам, народным гусляром".

Менавіта любанская зямля стала ў свой час гасцінным кутком і для народнага песняра Беларусі Янкі Купалы, менавіта тут ён знайшоў герояў сваёй паэмы "Над ракой Арэсай". І, як вядома, багатая на таленты Любаншчына стала калыскай творчасці для сённяшніх прызнаных паэтаў і празаікаў Івана Муравейкі, Уладзіміра Паўлава, Ніны Маеўскай, літаратуразнаўцы і крытыка Лідзіі Савік.

Аднак, як прызнаюцца любанцы, нават такіх славутых імёнаў для іх прыгожага ды казачнага краю ўсё ж недастаткова. Вось і наладжваюцца творчыя конкурсы сярод дзяцей, вось і вядзецца пошук талентаў: а можа, загарыцца на літаратурным небасхіле Любаншчыны яшчэ якая прыкметная зорачка! Што гэтыя спадзяванні недарэмныя, пераканаўча пацвердзіла свята дзіцячай творчасці, якое прайшло нядаўна ў Любані. У другі раз. Першае адбылося летась, у гарадскім Доме культуры.

Сёлета пераможцаў конкурсу "Залатая рыбка", які праводзіцца сярод школьнікаў Любаншчыны Беларускім дзіцячым фондам, рэдакцыяй часопіса "Вясёлка", аддзелам адукацыі і аддзелам культуры райвыканкама, а таксама Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкай, гасцінна ўшаноўвалі ў памяшканні раённай адміністрацыі. На свята з'ехаліся вучні і настаўнікі з усіх куткоў Любаншчыны. Тыя, хто захапляецца творчасцю, спрабуе свае сілы ў паэзіі, прозе, маляванні. Каго ж прызналі лепшымі на творчым конкурсе "Залатая рыбка"? Іх каля пяцідзесяці.

Госці з Мінска — галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка", лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Кастуся Каліноўскага, прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду Уладзімір Ліпскі, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова паэт Мікола Маляўка, вядомая мастачка Алена Лось — зрабілі падрабязны разгляд твораў, правялі своеасаблівыя ўрокі творчасці, якія, як усе спадзяюцца, запомняцца юным аўтарам. прынясуць свой плён. Як і тыя парады, што пачулі дзеці з вуснаў іх слыннага земляка, паэта Івана Муравейкі.

Потым пераможцы атрымалі ўзнагароды — падарункі і дыпломы.

Зноў парадавала любанцаў даўні і верны сябар "Вясёлкі" мастачка Алена Лось: як і ў мінулы раз Алена Георгіеўна прыехала не з пустымі рукамі. Яна прывезла ў дарунак Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы тры свае карціны.

Дзеці раз'язджаліся са свята творчасці задаволеныя і акрыленыя. А ўсіх арганізатараў конкурсу прыняў старшыня райвыканкама Валерый Іванавіч Грыбанаў. Ён расказаў пра ўсё, чым жыве раён, пра яго здабыткі ў галіне культуры, не прамінуўшы сказаць у адрас сталічных гасцей: "Дзякуй за ўвагу да раёна, за тую падтрымку, якую адчуваюць дзеці, робячы першыя крокі ў творчасці".

Хлебам-соллю сустракалі вясёлкаўцаў у Асавецкай і Сароцкай школах, дзе пісьменнікі сустракаліся з дзецьмі на другі дзень свайго знаходжання на Любаншчыне. Школьныя залы былі перапоўнены. А такая цікавасць да сустрэч, мабыць, была яшчэ таму, што некалькі вучняў з гэтых школ сталі пераможцамі раённага конкурсу "Залатая рыбка".

Літаратурныя сустрэчы на Любаншчыне — не адзіныя, што правяла рэдакцыя часопіса "Вясёлка" за апошні месяц. Гэта быў своеасаблівы красавіцкі акорд. А перад гэтым адбылося свята ў сталічным дзіцячым садку "Ліхтарык". З ім "Вясёлка" сябруе даўно. На гэты раз тут прайшло ўшанаванне лаўрэатаў літаратурнай прэміі імя Васіля Віткі. Іх двое: паэт Мікола Маляўка і кампазітар Кім Цесакоў. Першаму прэмія прысуджана за гадавы цыкл публікацый "Музей "Вясёлкі" і нізку вершаў, што былі змешчаны ў часопісе, другому — за песні "Іскрынка залатая" і "Брат у армію ідзе".

Дарэчы, узяўшы за аснову матэрыялы "Музея "Вясёлкі", паэт Мікола Маляўка напісаў цікавую кнігу "Сядзіба", якая спадзяёмся, убачыць свет у выдавецтве "Юнацтва" і стане сапраўдным падручнікам для юных краязнаўцаў. Багаты пазнавальны матэрыял, парады, прымаўкі і загадкі, жартоўныя сцэнкі — усё гэта знітавалася ў нарысах, надаўшы ім асаблівую мастацкую вартасць і адметнасць.

Апрача згаданых свят, сустрэчы з "Вясёлкай" адбыліся ў сталічнай бібліятэцы № 6, у СШ № 217, з вучнямі Бараўлянскай сярэдняй школы, у Калодзішчах. Канешне, усюды не паспееш, але вясёлкаўцы стараюцца нікому не адмаўляць: ездзяць, ходзяць на сустрэчы з дзецьмі, з тымі, хто любіць роднае слова, знаходзяць на яе старонках тое, што прыносіць ім радасць і задавальненне.

Красавік — час нараджэння "Вясёлкі". І ён, як бачыце, быў для супрацоўнікаў часопіса па-свойму турботны і плённы. Няхай пад яе знакам робіцца ўсё добрае і надалей.

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

ВЕЧАРЫНЫ

# Знак глыбокай пашаны

У гэты дзень на філфаку БДУ было ўрачыста і светла ад прыгожых усмешак, яркіх вясновых букетаў. Гэта было сапраўднае свята, бо ўшанаванне юбіляра — прафесара, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, навукоўца і паэта Алега Лойкі — падзея для навучальнай установы сапраўды значная і адметная, бо практычна ўсё свядомае жыццё Алег Антонавіч аддаў разам з творчасцю і навукай выхаванню будучых філолагаў, многія з якіх сталі вядомымі дзеячамі беларускай культуры.

Таму і выступоўцаў на ўрачыстай вечарыне ў гонар юбіляра было багата. Гэта і прарэктар БДУ А. Лазоўскі, і дэкан факультэта Л. Мурына, в. а. абавязкі старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Іпатава, паэты Мікола Мятліцкі, Алесь Пісьмянкоў, Алесь Пашкевіч, калегі па навуковай і творчай працы Міхась Мушынскі, Міхась Тычына, Уладзімір Гніламёдаў, Янка Саламевіч, Генадзь Шупенька, Уладзімір Навумовіч, Вольга Казлова, Людміла Корань, прадстаўнікі Гомельскага, Гродзенскага, Магілёўскага, Віцебскага універсітэтаў, многія іншыя. Павіншаваць Алега Антонавіча з юбілеем прыйшлі былыя аднакурснікі, шматлікія вучні, прадстаўнікі грамадскасці.

Сімвалічна, што ў заключным слове юбіляр чытаў новыя вершы. Прыемна было бачыць, што ён у росквіце творчых сіл, поўны планаў і задум, што ён па-ранейшаму ў страі, у змаганні за Беларусь, яе мову і культуру.

**Н. К.**

*ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКАЯ ТРЫБУНА*

***Нядаўна "Бібліятэка часопіса "Маладосць" адзначыла своеасаблівы юбілей — выданне 150-й кніжкі. 150 зборнікаў паэзіі, прозы, публіцыстыкі і крытыкі нашых самых маладых аўтараў, пераважная большасць якіх папоўніла Саюз беларускіх пісьменнікаў ці на падыходзе да гэтага. Скажам, на апошняй радзе з сямі новых сяброў нашага творчага саюза пяць — аўтары маладосцеўскіх кніжак.***

***Усё гэта, безумоўна, сведчыць пра прафесіяналізм як творчасці маладых, так і працы супрацоўнікаў "Маладосці". Сёння ў нас у гасцях рэдактар часопіса "Маладосць" Генрых ДАЛІДОВІЧ.***

# Будзем жыць!

**— Генрых Вацлававіч, як вядома, "Бібліятэка часопіса "Маладосць" пачала выходзіць з ліпеня 1988 года. Калі ласка, колькі слоў пра гісторыю яе ўзнікнення.**

— Гісторыя тая няпростая. Той, хто ўважліва сочыць за літаратурным працэсам, не можа не заўважыць: у нас перыядычна, пасля невялікіх перапынкаў, хваля за хваляй ідуць маладыя творцы. Ім, зразумела, была, ёсць увага як у "Маладосці", так і ў іншых літвыданнях, таму ні адзін год не абыходзіцца без творчых дэбютаў і першых кніг. Але яшчэ і да 1988-га наспела патрэба, каб паскорыць і пабольшыць выхад першых кніг маладых. "Мастацкая літаратура", "Юнацтва" таксама не абыходзілі ўвагай творчасць маладых, але гэта была адна, дзве кнігі ў год. Таму некаторыя здольныя маладыя мусілі чакаць выдання сваіх зборнікаў па некалькі гадоў, што, бывала, таго-сяго не толькі затрымлівала ў знаёмстве з чытачом, але і запыняла ў творчым росце, а ўрэшце пазбаўляла нашую літаратуру свежых прыліваў. Вось на сходах у Саюзе пісьменнікаў, у друку ўсё часцей пачало гучаць: трэба пры "Маладосці" мець літдадатак тыпу падобнага пры тады ўсесаюзным часопісе "Молодая гвардия". У ЦК ЛКСМБ ("Маладосць" была і яго органам), у ЦК КПБ да гэтага адносіліся станоўча, але воз не кратаўся з месца, бо і такая простая рэч вырашалася толькі ў ЦК КПСС (а там, можа, пасля смерці Машэрава і Кісялёва наконт гэтага ніхто нават і не заікнуўся. Што наша "Бібліятэка" — з чарнобыльскай бядой тады пакінулі наш люд сам-насам, замахалі рукамі: нам не трэба ніякай дапамогі, абыдземся!..)

На пачатку перабудовы лепшая частка нашага грамадства ажывілася, пісьменнікі — таксама. Праўда, яны не столькі мітынгавалі, колькі ўзяліся за тое, дзе яны моцныя: дбаючы пра духоўнасць, нацыянальнае адраджэнне, пра будучыню нашага народа, яго мовы і культуры як пялёсткі сусветнага суквецця, выпрацавалі ў сувязі з гэтым цэлую праграму і, не знайшоўшы ў Мінску аніякай падтрымкі, паслалі яе галоўнаму перабудоўшчыку, Гарбачову. Але... Адтуль прыбыла ўдарная брыгада і ў адным з кабінетаў паслухмянага, а то і ненавісніка да ўсяго беларускага супрацоўніка ЦК КПБ кожнаму з падпісантаў пачалі выкручваць рукі: адмаўляйся ад гэтага літапраграмы! Здаецца, ніхто не адступіўся, чым годна выратаваў свой гонар, гонар пісьменніка, гонар нашага народа. Тагачасны першы сакратар Саюза пісьменнікаў Ніл Гілевіч з абурэннем гаварыў пра такія і іншыя рэчы на адным з пленумаў Саюза пісьменнікаў СССР, у тым ліку і пра патрэбу "Бібліятэкі". Мабыць, апошняе і падштурхнула даць на яе дазвол.

**— Але ж "Бібліятэка часопіса "Маладосць" пачала выходзіць "худзейшай" за адпаведнае выданне ў "Молодой гвардии".**

— І па аб'ёме, і па ганарары. Тады проста не маглі дазволіць, каб рэспубліканскае выданне зраўнялася з усесаюзным. Не дазволілі мець і дадатковы штат, а ўсю новую, большую работу ўсклалі на ранейшы калектыў. Мы, творчыя супрацоўнікі, былі радыя і гэтаму, абы была яна, жаданая "Бібліятэка", а вось тэхнічныя трохі і бурчэлі. Хто рады, калі табе дадаюць працы, а аплаты за яе не? Ды ўсё ж знайшлі паразуменне, і над першымі кніжкамі ўсе пачалі працаваць натхнёна. Будні перайтвараліся ў свята. Свята для маладых, для нашай літаратуры. На рэдкалегіі вырашылі: сустрэцца з суполкай "Тутэйшыя", якія тады забушавалі, праводзілі частыя сходы і іншыя мерапрыемствы, хто шчыра, а хто па нацкоўванні грамілі — нібыта грамілі па іхнім разуменні — старэйшыя пакаленні "прыкарытнікаў", вызначалі новыя шляхі развіцця літаратуры і тое, хто кім павінен займацца, каб "выратаваць" ёе, літаратуру. Доля такой крытыкі была справядлівая, але толькі доля, бо і ў савецкіх умовах нашы пісьменнікі здолелі не толькі выжыць, але і стварыць шэдэўры на ўзроўні сусветных, разам з іншымі памагчы ўстояць нашай нацыі. Асабіста я, тады нам. галоўнага, старшыня камісіі Саюза пісьменнікаў па рабоце з маладымі, вёў перамовы з "Тутэйшымі" і меў даручэнне сказаць: давайце разам падрыхтуем дзве першыя кнігі "Бібліятэкі" з вашых, як вы лічыце, непрызнаных твораў — калектыўныя зборнікі паэзіі і прозы. Вось, хлопцы, менш наракайце і пляжце, а вазьміце і самі складзіце свае рукапісы для выдання. Папрацуйце. І найперш над сваімі творамі. Ужо "непадкарытнымі".

**— Пачалі вы, досыць з рызыкоўнага на той час кроку...**

— Думаю, рэдкалегія паступіла спакойна, разважліва, па-гаспадарску. Трэба ж было адчыніць фортачку, каб і пара сышла і свежае паветра паступіла. Спачатку да нас аднесліся крыху недаверліва, можа, і за такі наш дэмакратызм (хоць у "Маладосці" ён заўсёды быў з часоў А. Кулакоўскага, П. Панчанкі, А. Асіпенкі, Г. Бураўкіна, В. Зуёнка), але затым, уведаўшы, што мы "замахнуліся" на "Старажытную Беларусь" Міколы Ермаловіча, адгукнуліся з энтузіязмам, сапраўды, самі адабралі свае творы, а мы аднесліся да іх паважліва і выдалі. У зборніках паэзіі "...І надзея, і лёс, і ўспамін", у прозе "Жнівеньскі праспект". "Бібліятэка" рушыла ў свой шлях. І, дзякуй Богу, прадоўжылася нармальная праца з маладымі, у тым ліку і з "Тутэйшымі", сярод якіх аказаліся не толькі гаваруны, але і здольныя маладыя людзі. З іхніх твораў пачалі выходзіць і індывідуальныя зборнікі (першы "Агмень", выдаў таленавіты але і, мякка кажучы, "бурапенны" А. Сыс), а затым пайшлі, а то і пасыпаліся асобныя зборнікі аўтараў з усіх куточкаў Беларусі. Напомню некаторых іх, гэтых аўтараў (у алфавітным парадку): паэты Э. Акулін, Г. Варатынская, браты Дэбішы, А. Зэкаў, І. Ляшкевіч, Т. Мазур, Т. Мельчанка, І. Пракаповіч, А. Пашкевіч, М. Скобла і інш., празаікі — А. Андзілеўка, А. Бельскі, А.Глобус, А. Казлоў, С. Квіткевіч, Я. Конеў, А. Крэйдзіч, В. Кукса, А. Наварыч, В. Праўдзін, Б. Пятровіч, А. Федаранка, В. Шырко, У. Ягоўдзік і інш., крытыкі — І. Афанасьеў, С. Кавалёў, І. Шаўлякова, Я. Янушкевіч, публіцысты — П. Сабіна, М. Васькоў і інш. Мне хацелася б назваць усіх ужо звыш 150 аўтараў, над чыімі рукапісамі працаваў, чые вокладкі кніг бачу, калі заплюшчу вочы. Нялёгка, нават цяжка выдаваць гэтыя кнігі, але і ўцешна, радасна: гэта — праца на будучыню. Пераадолелі і такі бар'ер, у любімым Саюзе пісьменнікаў: там, у прыёмнай камісіі, напачатку не вельмі хацелі разглядаць кніжкі "Бібліятэкі" як падставу для ўступлення іхніх аўтараў у Саюз пісьменнікаў. Маўляў, што — будзем штампаваць 12 сяброў Саюза ў год?! Пераламалі такі погляд, пачалі сур'ёзна адносіцца да "Бібліятэкі", і вось факт: на апошняй радзе з сямі новых нашых сяброў пяць прынятыя па кніжках "Бібліятэкі". Не будзем пасміхоўвацца, разам парадуемся: калі са 150-ці выйдуць 2-3 Асобы ўзроўню Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі ў паэзіі, узроўню М. Гарэцкага, К. Чорнага, Я. Брыля, І. Мележа, В. Быкава, І. Шамякіна, І. Пташнікава ў прозе, узроўню Р. Бярозкіна і А. Адамовіча ў крытыцы, то, выбачайце, маю смеласць лічыць, што наша задача выкананая.

Заканчваючы адказ на гэтае пытанне, не магу не падкрэсліць тое, за чым сачу, што ведаю: некаторыя з вышэйназваных "нашых" ужо не толькі аформіліся як творцы, але і пачынаюць іграць сваю ролю ў нашым літаратурным працэсе. Нават тым, што належна занялі пэўныя пасады ў літвыданнях. Зразумела, пасада — не знак таленту, але яна можа ўплываць на развіццё альбо, на жаль, на загубу талентаў. На шчасце, з тых нашых аўтараў, хто цяпер займеў пасады ў "Полымі", "Маладосці", "Нёмане", "ЛіМе" і ў іншых выданнях, я не ведаю "нечесливых". Я жадаю ім большых пасад, больших асабістых удач і большых спраў на карысць нашай шаноўнай беларускай літаратуры. І мне, здаецца, паўтаруся, сур'ёзныя з нядаўніх маладых дбаюць пра сённяшняе і заўтрашняе сур'ёзна. Таму ёсць канкрэтныя прыклады.

**— А іменна?**

— Скажам, у "Маладосці" на вельмі адказнай, шаноўнай пасадзе загадчыка аддзела прозы працуе маладосцеўскі выхаванец А. Казлоў. Як чалавек ён няпросты, як празаік вельмі арыгінальны, але як супрацоўнік хораша дбае пра творчую моладзь. Адстойвае свае і іхнія пазіцыі. Можа, некаму такое можа не спадабацца, а мне імпануе. Нармальна. У тым ліку і спрэчкі пакаленняў, пазіцый, поглядаў, меркаванняў.

Вось мы звярнулі ўвагу: ідзе, "грядёт" новая чарада творчай моладзі з філфака БДУ. Пайшлі туды, напрасіліся на сустрэчу, пагаварылі. Пасля з выкладчыкам філфака М. Кенькам арганізавалі і правялі сумесны семінар для творча здольных філфакаўцаў. І вынік паспяховы: летась, у першым паўгоддзі, у "Бібліятэцы" выйшлі ажно тры зборнікі студэнтаў філфака — Я. Лайкоў, М. Прохар, П. Гаспадыніч. На апошняй радзе Саюзе беларускіх пісьменнікаў М. Прохар прынялі ў нашы шэрагі, на сёння ў свае 21 год яна — самы малады сябра нашага творчага саюза. Ці вось яшчэ прыклад: гадоў сем таму ў "Маладосці" надрукаваўся У. Гаўрыловіч з жыткавіцкай зямлі і... зацiх. У чым справа? Наш супрацоўнік У. Саламаха спецыяльна з'ездзіў у Жыткавічы і выявіў: малады чалавек апусціў галаву і рукі з-за таго, што яго ныя тыя апавяданні не столькі пакрытыкавалі, колькі збэсцілі вядомы крытык. Мы паднялі зняверанаму аўтару галаву і рукі, выдалі ў № 1 "Бібліятэкі" за г. г. ягоную кнігу, і шчыра лічу, у яго асобе мы маем і шчырага прапагандыста культуры і добрага празаіка. Як кажуць, расці, мацуйся! Па меры магчымасці праводзім і прэзентацыі кніг "Бібліятэкі". Скажам, цудоўныя літаратурныя вечары адбыліся на філфаку БДУ, ГДУ (Гомель), у Магілёве, Брэсце, Гродна. А якая адбылася вечарына ў Навагрудку, дзе блаславілі кнігу прозы "Мужчыны і жанчыны" Т. Супрановіч. З'ехаліся ў горад не менш 200 чалавек, і мы шчыра размаўлялі і пра творчасць іхняй зямлячкі, і пра нашу мову, культуру, гісторыю. Здаецца, усім было натуральна, хораша на душы: будзем жыць!

**— Генрых Вацлававіч, хочаш ці не хочаш, але трэба ад лірыкі перайсці да зямнога. У прыватнасці, вось такое не зусім далікатнае пытанне. Як вядома, "Бібліятэка" прызначана для творчай моладзі, але выходзяць кнігі і тых, каму пад ці ўжо і за сорак, а то, бывае, і тых, хто мае ўжо кнігі.**

— Гэта вельмі рэдка.

**— Згодзен. Але чытачы, творцы павінны ведаць сітуацыю, прынцып.**

— Калі ласка! Ёсць нямала прыкладаў, калі хтосьці рана і хораша пачаў друкавацца, але недзе ў глыбінцы ці то залішне глыбока нырнуў у побыт, ці то зняверыўся ў сваёй далейшай сіле, а хтосьці ўвогуле пачаў пісаць толькі за трыццаць альбо пад сорак гадоў. Дык што нам рабіць з іхнімі рукапісамі? Адмахнуцца? Яны — не нашы? Не даць ім шанцу? Але той жа Васіль Быкаў у свой час у "Маладосці" надрукаваў сваю першую аповесць ці не ў 35 гадоў, але што — гэта зашкодзіла яму не толькі належна самасцвердзіцца, але і ўвайсці ў тагачасную эліту беларускай і агульнасавецкай прозы? Ясна, не ўсе Быкавы, ды... Усім здольным, у каго ёсць Божая іскра, трэба даць шанц. А што да тых, хто выдаецца ў "Бібліятэцы", ужо маючы кнігі, да іх мы таксама падыходзім дыферэнцыравана. Скажам, А. Зэкаў вядомы як паэт-лірык і гумарыст, а вось узяў і напісаў цікавую сучасную кніжку прозы для сучасных дзяцей. Не варта гэта ўвагі? Ці А. Бельскі — крытык, але стварыў, як лічу, вельмі прыстойную аповесць і арыгінальныя апавяданні, Т. Мушынская вядомая як глыбокая даследчыца тэатра, балета, а пасля проста "заблістала" ў прозе. Мы падумалі-падумалі і рашылі гэтых аўтараў падтрымаць у новым для іх жанры. На карысць агульнай справы. Вядома, не ўсім гэта падабаецца. Як, дарэчы, і іншы нюанс. Паколькі пачаткоўцы, асабліва празаікі, даволі аб'ёмна "сыходзяць" у "Бібліятэку", то ў часопісе часамі большае публікацый, як жартуем, паўкласікаў і класікаў. Гэта таксама не ўсім даспадобы. Ды, па-першае, а дзе майстрам дзецца? "Полымя" не здолее ўсіх іх надрукаваць. А па-другое, хіба не варта дбаць пра ўзровень выдання, перахопліваць лепшыя творы, якія могуць быць літаратурнай школай для творчай моладзі? Карацей, прыходзіцца цярпець як пахвалу, так і хулу.



**— Адпаведна, весці гаспадарку ў часопісе і яго літдадатку не так і проста?**

— Зразумела. Тут найперш патрэбна выверная лінія і, паўтаруся, першасная падтрымка ўсяго свежага і таленавітага. Працы спрыяе тое, што справу разумеюць і падтрымліваюць урад, Дзяржкамітэт РБ па друку, наш Дом друку. Праўда, прыходзіцца папацець і аўтарам. Не толькі каб напісаць добрыя творы, але каб і папабегаць, арганізаваць на "Бібліятэку" са "сваім" нумарам падпіску, знайсці долю сродкаў на выданне кнігі. Якая не простая ў нас эканамічная і культурная сітуацыя, але ўсё ж знаходзяцца райвыканкамы, заводы і іншыя прадпрыемствы, калгасы, фірмы, якія спрыяюць. Дзеля гэтага асабіста мне часта прыходзіцца пісаць у адпаведныя ўстановы рэкамендацыйныя альбо слёзныя лісты. Адмоў фактычна не было, хоць невялікая, але дапамога ідзе. На гэтым фоне крыўдна, што аніяк не адгукнуліся тыя, хто павінен непасрэдна займацца маладзёжнымі клопатамі. Скажам, у справе выдання вышэйпералічаных кніг студэнтаў. На мае лісты нават не было адказу. А што да аўтараў, то многім з іх яшчэ трэба ўмець вучыцца выдаць сваю кнігу, прапагандаваць і распаўсюдзіць яе. Хоць і тут ёсць паказальныя прыклады. Да слова, М. Ждановіч з Гомеля, на № 2 "Бібліятэкі" за гэты год, г. зн. на сваю кнігу паэзіі, спачатку сабраў невялікі тыраж. Але затым знайшоў "добрага дзядзьку" і з ягонай дапамогай замовіў яшчэ 500 экземпляраў.

**— Генрых Вацлававіч, цікавыя кнігі "Бібліятэкі" ў 2001 годзе будуць?**

— Абавязкова. Я называў ужо імёны Гаўрыловіча і Ждановіча, хацелася б яшчэ цёплае слова сказаць пра прозу былой гамяльчанкі-чарнобылькі Н. Рыбік, кнігу паэзіі і прозы віленскіх студэнтаў-беларусаў і інш. Так што той, хто выпісвае альбо купляе кнігі "Бібліятэкі", меў і будзе мець магчымасць знаёміцца з новым, што ідзе ў нашу літаратуру.

**— Не магу не задаць вам, чалавеку, пісьменніку, яшчэ такое пытанне: што вы чакаеце ад чарговага з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў, якім, на вашу думку, ён будзе?**

— Хацелася б, каб наш з'езд быў эмацыянальны, шчыры, але дзелавы. Каб мы гаварылі пра нашу гісторыю і сучаснасць, духоўнасць, культуру і літаратуру, пра высокую маральнасць і этыку ўсяго нашага грамадства. Каб мы не паддаліся на правакацыі тых, хто ўжо распальвае нейкія нездаровыя страсці, вядзе паўпалітычныя гульні, спрабуе раскалоць наш Саюз.

На мінулым з'ездзе мы, многія мужчыны, ухіліліся ад абавязкаў старшыні, а той, хто згадзіўся пакіраваць, даў драпака за мяжу і вядзе сябе не зусім тактоўна. На гэтым засяроджваць вялікую ўвагу не варта, каб не адхіліцца ад галоўнага. Паміж з'ездамі, як на свае вочы пераканаўся, немалы цяжар па падтрыманні дзейнасці саюза, па наладжванні нармальных адносін з уладаю і грамадствам узяла на свае плечы разам з калегамі-памочнікамі жанчына, Вольга Іпатава. Гэты курс трэба абавязкова прадоўжыць.

## “Зеленавокія вої і іх прыгажуні”




**Арыгінальную кнігу паэзіі “Зеленавокія вої і іх прыгажуні” выдала Людка Сільнова (пабачыў свет зборнік у “Беларускім кнігазборы”).**

**І па самой задуме, ды і таму, што, дзякуючы прадмове “Любоў да прыроды і вечнасці”, напісанай самім аўтарам, ёсць мажлівасць высветліць, а чым жа кіравалася Л. Сільнова, рыхтуючы яе, і ўвогуле, калі глядзець шырэй, як разумее яна паэзію, прыгожае пісьменства.**

**Л. Сільнова сведчыць: “Напрыканцы драматычнага XX стагоддзя, азіраючыся назад і пэўным чынам падсумоўваючы плён сваёй творчай працы, мне хочацца стварыць нейкую шматмерную сферу, бяспечную прастору, востраў, кшталту міфалагічнага славянскага Буяна і насяліць яго вобразамі людзей, якіх я люблю, з якімі сутыкалася ў жыцці, з некаторымі ў думках: ратаваць — дзеля жыцця ў наступным XXI стагоддзі”.**

**А ў выніку, па словах аўтара “Зеленавокіх вояў...”, “паўстала ідэя гэтай незвычайнай кнігі”. Увайшлі ж у яе вершы-прысвячэнні пісьменнікам, мастакам, вучоным, журналістам, пачынаючы ад знакамітага рускага паэта Веліміра Хлебнікава, да сучаснага літаратара і перакладчыка са старажытнабеларускай мовы на сучасную паэму “Трышчан і Іжота” Міколы Рамаѕоўскага. Усяго ў поле зроку Л. Сільновай трапіла 27 аўтараў. Прытым да некаторых яна звяртаецца неаднойчы, а Адаму Глобусу і Анатолю Сысу да ўсяго і адрасуе калектыўнае прысвячэнне “Тры колеры”, хоць напісала і кожнаму паасобку.**

**Што да саміх твораў, то яны напісаны за апошнія пятнаццаць гадоў: “Частка гэтых вершаў друкавалася ў маёй першай кнізе “Лаўстаўка ляціць...” (1993), у газетах і часопісах 90-х гадоў як у Беларусі, так і за яе межамі. Але ўсе яны падабраны па прынцыпе адпаведнасці тэме духоўнага ваярства і рыцарскай стылістыцы, узаемным перазовам нашых галасоў”.**

**Назву кнізе даў аднайменны верш-прысвячэнне, адрасаваны Леаніду Дранько-Майсюку:**

*Зеленавокія воі,*
*склаўшы*
*свае празрыстыя крылы*
*І прыціснуўшы іх*
*да руінаў*
*стагоддзяў і сноў*
*(“Там блукаюць прывіды!*
*Страшна мне!*
*Абярніся, мой мілы!..”)*
*Непрыкметнымі ходзяць*
*па вуліцах*
*гарадоў.*

*О, вясёлыя воі!*
*Кахаюць іх там*
*прыгажуні,*
*Як сатканыя*
*з тонкіх матэрый —*
*з туману, дажджу і святла.*

**Людка Сільнова тым самым старадаўняму слову “воі”, якое ў сярэднявеччы азначала княжацкіх воінаў, якія адносіліся да найбольш падрыхтаванай часткі войска і адначасова самай адданай уладару, надае новае значэнне: духоўныя воі.**

**Хто, на думку аўтара “Зеленавокіх вояў...” адпавядае такому прызначэнню, і стаў героем кнігі. А гэта — Алесь Разанаў, Уладзімір Някляеў, Сяргей Дубавец, Вітаўт Чаропка, Славамір Адамовіч і іншыя. Не абышла Л. Сільнова ўвагай і, кажучы яе словамі, “жанчын-ваярак”: Галіну Дубянецкую, Раісу Баравікову, Любоў Турбіну, Антаніну Хатэнку...**

**Міхась ГЕНЬКА**

ЮБІЛЕІ

# “Жыццё наша слова праверыць...”

### Сцяпану ГАЎРУСЁВУ СПОЎНІЛАСЯ б 70 гадоў

Пры жыцці Сцяпан Гаўрусёў значна не дабраў пашанот, якія справядліва належалі яму: званняў, прэмій, узнагарод. У савецкі час гэта былі нібыта абавязковыя прыдаткі да паэзіі, пасля чаго яна ледзь не аўтаматычна заносілася ў разрад класічнай. Не ўмеў выстойваць на трыбунах, не зазіраў начальству ў вочы. Нават Літаратурную прэмію імя Аркадзя Куляшова ўжо дванаццатай па ліку кнізе цудоўнай лірыкі “Пладаноснасць” прысудзілі за год да раптоўнай смерці аўтара. Праўда, з’явілася яшчэ адна, трынаццатая: “Званы нябёс”. Прадбачанне? Так, ён быў асобай, паэт “малады і сівагаловы”. Дакладны, назіральны, з “іскрыстым звонам пушкінскіх радкоў”. Гэта ён “на вастрыі пяра штодзённа атамную станцыю насіў”, гэта ў яго “карта свету нервова трапятала, як сятчатка ў трывожных вачах”. Ужо маючы багаты вопыт непастаянства лёсу, у зборніку “Азарэнне” адной толькі страфой ён сказаў за цэлую паэму:

***Жыццё бярэ нас невідушчай жменяй***
***І — сее ў свет, не дбаючы аб тым,***
***Каму на глебе прарастаць каменнай,***
***Каму расці ў раздоллі палявым.***

Асабіста Сцяпану Гаўрусёву амаль што і не дасталося квітучага “раздолля палявога”: яно было ўшчэнт пераарана снарадамі і мінамі, шчодра паліта салдацкай крывёй. “Абняўшы ўвесь абсяг паднебны, // Дзе краскі яркія цвілі, // Фашысцкіх фрэнчаў крой ганебны // Забрудзіў колеры зямлі”. Паэту было толькі дзесяць гадоў, калі пачалося грознае ліхалецце. І хлапечая памяць аб тым, што давялося перажыць і выпакутаваць, вострым болем адгукнецца ў яго кнігах, асабліва ў такіх, як “Шчодрасць”, “Ураган”, “Пераклічка”. Вайна стала, бадай, галоўнай тэмай у ранняй, ды і пазнейшай, творчасці Сцяпана Гаўрусёва. У тым самым палявым раздоллі, дзе цяпер зялёнае жыта, ён па-ранейшаму бачыць постаці байцоў. “Памяць наша — быццам мост пантонны — // Берагі злучае пад агнём...” Тут і “гулкая пераправа”, і “быстрая танкетка”, і “трываласць перамог”. Спатрэбілася ледзь не дваццаць гадоў, каб надзвычай узрушана, праўдзіва і вобразна сказаць не толькі пра сябе, але і пра ўсё сваё страчанае пакаленне:

***Я вырас пад гарматнымі стваламі,***
***Я мераў час секундай, а не днём,***
***Я вызначаў свой рост***
***не пад сталамі —***
***Пад расчахлёнай пашчай, пад агнём.***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Мы прызнаваліся сваім любімым***
***І службу ўжо дарослую няслі.***
***Стаў новым свет,***
***а губы пахлі дымам,***
***Бо мы з снарадных конавак пілі.***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Нясцерпнай стратай***
***сэрца засмучона.***
***Былое ўспамінаецца часцей.***
***Калі ж гляджу на радасных***
***дзяцей, —***
***Я не вярну з мінулага нічога.***

Лірычны герой бачыць і чуе: гарыць, не патухае бікфордаў шнур успамінаў. І цягнецца ён з вёскі Нова-Аляксандраўка цяперашняга Дрыбінскага раёна, дзе нарадзіўся і вырас паэт, цягнецца ў Асвенцім і Бухенвальд, у спаленую Хатынь і задымлены Магілёў. Можа, іменна таму ў ягонай лірычнай споведзі такі гулкі і рэзкі металёвы гук. Зразумела: гэта адзываецца журбой і скрухай метал вайны: снарадныя конаўкі, грабянцы з алюмінію збітых самалётаў, пярсцёнкі з медных пятакоў, шоргат пустой баклажкі, звон штыка і мяча. Пераплаўлены ў сэрцы паэта, метал вайны стаў прыдатны для вобразнай, мастацкай чаканкі, і тыя паэтычныя вобразы, што вельмі часта ўзнікаюць у памяці, назвычай рэльефныя, выпуклыя, добра бачацца і зблізку, і здалёк. Сцяпан Гаўрусёў быццам чаканіць свае радкі, шліфуе рыфмы, каб ні шчылінкі, ні зазору, у горне гарачага пачуцця дабяла распальвае коўкі матэрыял. Такім, прынамсі, мне ўяўляецца верш “Сандамірскі плацдарм”, прысвечаны сябру, паэту-франтавіку Пятру Прыходзьку:

***Змоўк галасоў шчаслівых ураган.***
***Ад мокрай сажы пацямнела зорка,***
***І запалаць гатова гімнасцёрка.***
***Агонь і попел.***
***Нават дыхаць горка.***
***І на хаду ты выхапіш наган.***

***У цёмных зрэнках калыхнецца***
***жах —***
***У полымі няма арыенціра.***
***І над бяскрайнім полем Сандаміра***
***Звініць вайны абвугленая ліра —***
***Аж цесна перапонкам у вушах.***

Няцяжка заўважыць: малюнкі поля бою пад Сандамірам, адчаканеныя ў мастацкіх вобразах і адбітках, тут сапраўды ўражваюць, запамінаюцца лёгка і надоўга. Слова “чаканіць” мае яшчэ адно значэнне. У садоўніцтве чаканіць — пасынкаваць, абразаць бакавыя парасткі раслін і вяршок сцябла. Тады ўзмацняецца пладанашэнне, яблыкі, грушы, слівы хутчэй даспяваюць. Ці пра гэты эфектыўны садоўніцкі прыём паэт ведаў, ці проста па інтуіцыі, але дзве паэтычныя кнігі ён назваў “Крона” і “Пладаноснасць”. Быццам разумеў, што ад добра дагледжанай кроны залежыць ураджай садавіны. Не дзіўна, чаму ў паэтычным садзе Сцяпана Гаўрусёва такія важкія, сакаўныя плады:

***Садок вячэрні, садок ружовы***
***Густога ветру абдаў струмень.***
***Аб яблык шорхнуўшыся мядовы,***
***Звініць прамень.***

***Прамень? А можа, руплівы ўзятак***
***Дасюль збірала яшчэ пчала?***



***Пыл усклубіўшы, рыкае статак***
***Ў канцы сяла.***

Безумоўна, акрамя вайны, паэта час ад часу адольваюць і чыста лірычныя ўспаміны, а тады з’яўляюцца шчырыя, задушэўныя вершы аб каханні. “Садок ружовы” рос, а можа, расце і цяпер, у вёсцы дзяцінства, там, дзе “шырокім горнам шуміць зара”. У лірыцы Сцяпана Гаўрусёва ёсць усё, што дае сапраўдны талент: даверлівасць, узнёсласць, ціхая жальба. Бо і “садок вячэрні” прывабны і зычлівы, калі ў ім растуць пладовыя дрэвы самых розных гатункаў. Яшчэ лепш “Парой цішы” ў свой сад кахання хадзіць пад руку з прыгожай дзяўчынай, аб чым пераканаўча сведчыць глыбока лірычны верш “Костачка вішнёвая”:

***Калыхалася зара***
***Над палямі сціішнымі.***
***Ты мяне сярод двара***
***Частавала вішнямі.***

***Было добра паспытаць***
***Залацістай спеласці.***
***Пра галоўнае ж спытаць —***
***Не хапала смеласці.***

***Не было маёй віны***
***Ў ціхай сарамлівасці:***
***Свет гайдалі туманы***
***Маладой шчымлівасці.***

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Не знайсці цябе нідзе,***
***— журбы асноваю —***
***Вішня белая цвіце —***
***Костачка вішнёвая.***

У другім, такім жа цнатлівым, вершы пра каханне лірычны паэт згадвае іншыя “шчаслівыя дарункі бяссмертнага жыцця”. Побач з яблыневым і вішнёвым садам, дзе крынічная вада і бялюткія лілеі. “Купаюц-



*А. Пысін, С. Гаўрусёў, 1964 г.*



*Д. Бугаёў, С. Гаўрусёў з дачкой, А. Адамовіч, 1965 г.*

Генадзь ДЗМІТРЫЕЎ

# АПРАМЕТНАЯ

ЖУРБОТНАЯ НАВЕЛА



У гэтай, не надта каб вялікай, але такі і ладнай — на добрую паўсотню двароў, — вёсцы людзі адзін аднаго называлі па мянушках. Цяжка сказаць, з якіх часоў павялася гэтая завядзёнка і як тое сталася. Магчыма, спрычыніўся тут прыродны сялянскі гумар, спрадвечны і горкі, як само іхняе жыццё. Магчыма, з лёгкай рукі змыслага і вострага на язык даўнакалішняга аднавяскоўца. Толькі раней ці пазней трапнае мяно знаходзіла свой аб'ект і прыліпала да яго да самага скону. І прамаўлялася яно дзе ў вочы, дзе за вочы, цішком і прылюдна, часам у злосці, а найчасцей звыкла, будзённа. Былі мянушкі вельмі адметныя, каларытныя, не пазбаўленыя своеасаблівага шарму. Былі і крыўдныя, у меру ці не ў меру абразлівыя і нават непрыстойныя. Ну, чаго вартыя хоць бы такія жаночыя мянушкі: Рашчапэнда, Бздунка альбо, яшчэ горш — Абсярыпята? Быў у вёсцы Карэспандэнт, які разпораз праз "раённую пляткарку" (чытай — райгазету) апавяшчаў свет аб чарговай лакальнай перамозе на адной, асобна ўзятай свінаферме. Быў там нават свой Сталін, які, кажуць, і на ноч не здымаў з сябе зашмальцаваны да бляску фарсовы фрэнч — акурат як у бацькі ўсіх народаў і правадыра сусветных пралетарыяў, меў да таго ж багатыя вусы і не выпускаў з зубоў ушчэнт пракураную піпку. Лёс вяскоўца, вядома, як і чалавецтва ў цэлым, ён не вырашаў, але ягоная пастава на нешта намякала і насцярожвала...

А можа, да ўсяго гэтага абавязвала назва самой вёскі — Мяніца.

Так ці інакш, гадоў за дваццаць да апошняй вайны з германцам нарадзілася тут на свет дзяўчо, прыняўшы ад хрышчэння імя Антаніна. Мала-памалу Антаніна-Антося ўвабралася ў дзеўкі, стала Антоліцай, пабралася шлюбам з аднавяскоўцам Гарасімам і прывяла яму перад самай вайной дачушку Зінку...

Але аб гэтым крыху пазней. Бо тут самы час прыгадаць, як Антоліца здабыла сабе яшчэ па тым даваенным часе сваю даволі гучную, але крыху недарэчную мянушку. Была яна ад прыроды хуткая, як маланка, такая спрытная і ўвішная, і так гарэла ў ейных руках любая сялянская праца, што неадноўчы чула яна ўслед ад вяскоўцаў знарачыта-бурклівае: "Носіцца, як галашоная", альбо: "Ну, дзеўка кругом апрамеццю" Апрамеццю — гэта як быў ухвальнае — звышхутка азначае. Адсюль пайшло: то "галашонай" назавуць, то "апраметнай". І, відаць, таму, што ў вайну так шмат кабеты галасілі па забітых і памерлых, сваіх і чужых, што слова "галашоная" страціла пераносны сэнс, а за Антоліцай чэпка замацавалася мянушка Апраметная. Хоць і мела гэтае слова само па сабе іншае, зусім не Боскае паходжанне — месца, дзе душы грэшных пакутуюць пасля смерці...

І трэба такому стацца, што акурат гэты, нябоскі пачатак, і вызначыў надалей усё яе жыццё. Жыццё ў апраметнай.

Цяпер колькі слоў пра Гарасіма.

Быў ён у маладыя гады вабны тварам і паставаю, меў залатыя рукі — як па цяслярнай ці сталярнай часці, як печ скласці ці дах саломаю пакрыць. А што на гармоніку зайграе дый заспявае яшчэ пры гэтым — усе дзеўкі лістом сцяліліся. Ды не ласы быў да іх, абраў адну Антоліцу, Антосечку. Грае ён, бывала, на гармоніку, а тая сядзе побач, накладзе на грабеньчык шматок паперкі — і вось табе гатовы "струмант", як яна яго ахрысціла: так падыграе гарманісту, так адмыслова выведзе мелодыю, што і скрыпка не дакажа. А самі вачэй адзін з аднаго не зводзяць. Нарэшце пажаніліся, так-сяк зладзілі хату і нарадзілі згаданую ўжо дачушку Зінку. І нейк да вайны не ліплі да яго мянушкі, называлі, праўда, часцей не Гарасімам, а Грасімчыкам. Толькі пазней, калі чалавек здабыў на вайне новыя, зусім не ўласцівыя яму раней звычкі, яго пачалі клікаць Героем. Адваяваў ён, як кажуць, ад званка да званка, спачатку ў партызанах, а потым з рэгулярным войскам дайшоў аж да Берліна. З вайны прывёз галасісты нямецкі гармонік, некалькі медалёў і столькі гонару, што часта сам сябе тоўк кулаком у грудзі (вядома, заліўшы за каўнер добрую дозу самапальнай) і ў перамешку з мацюком настойліва ўсім даводзіў, што ён — герой вайны і варты значна большай павагі. Пры гэтым ірваў на сваіх грудзях крамную кашулю, падараваную яму ў чарговы Дзень Перамогі мясцовым начальствам, як знак той самай вялікай павагі і прызнання яго гераічных заслуг. За што і стаў у рэшце рэшт Гарасім — Героем. А паколькі гэтыя словы былі такія блізкія, Апраметная аб'ядняла іх у адно і ўсюды ці то ўсур'ёз ці то пацвельваючыся прамаўляла: "Мой Героім". Так і пайшло па Мяніцы — Героім ды Героім.

Піў Героім, як і рабіў, адмыслова, сам іншым разам казаў: "Рукі ў мяне залатыя, што праўда, то праўда, а вось глотка — лужоная". На добрым падпітку гераізм ягоны праяўляўся з яшчэ большай сілай — і тады ганяў і біў-лупіў ён сваю Апраметную, як сідараву казу, так што тая часцяком мусіла ратавацца ў каго-небудзь з суседзяў. Вяскоўцы толькі спачувальна ківалі галовамі і канстатавалі: "Зноў Героім чартоў ганяе". Але чулася за гэтым і нейкая прыхаваная зайздрасць, бо так моцна кахаць адзін аднаго, як Героім з Апраметнай, мала каму ў Мяніцы пашчасціла...

Сяджу між двух надмагільных крыжоў, з добрым густам выкаваных некалі ў калгаснай кузні самім Гарасімам. Ляжаць яны побач — мая дарагая, па маці родная цётка Антося і "гераічны" муж яе дзядзька Гарасім. Апраметная і Героім. Адпрацавалі, адваявалі, адкахаліся. Адпекаваліся на гэтым свеце. А побач — магілкі іх любых дзетак, маіх стрыечнічкаў — Зіначкі, якую я ніколі не бачыў, Зосі, Лёдзі, Лоркі, Валодзькі. Васіля. І варушыцца недзе ў сэрцы нямое запытанне: — Ну, як вам там? Ці прыняў Божа вашыя грэшныя і бязгрэшныя душы да сябе ў рай? Бо пекла вы добра зведалі на гэтым свеце, так што наўрад ці горш вам на тым...

І паўстае ў маёй памяці яшчэ жывая, але ўжо добра падбылая, хоць па-ранейшаму прыгожая з твару, зношаная працай, знясіленая жыццём цётка Антося — Апраметная. І ціха-жаласна гучыць Героімаў гармонік, падгалошаны няхітрым жончыным музычным інструментам. І чуецца мне тая журботная цётчына споведзь, якую я неадноўчы чуў і якая ўрэшце злілася для мяне ў суцэльны спавядальны маналог звычайнай вясковай кабеты пра лёс чалавека на гэтай горкай зямлі.

—Як нарадзіла Зінку, радая была без памяці. Як два сонцы стала ў хаце — яна, небажатка мая, і Грасімчык-любка. Жыць бы ды радавацца. На табе — вайна. У войска не паспелі забраць чалавека майго, дык ён пры гаспадарцы. Хоць якая там гаспадарка, але і з галадухі не паміраць. Калгас да вайны яшчэ ўсё чыста павымеў, нават жорны пабілі, жываціну, якая была, і тую абагулілі. Барадой Гарасімка аброс — не раўнуючы стары дзед. Немцаў не было: далёка мы ад мястэчка, дзе райвон быў, дарог ніякіх, адно вазамі склыгалі. Дальбог, за вайну двух немцаў усяго і бачылі ў Мяніцы. Ды і то, дзеткі, адзін храмы, другі крывы. І партызанаў тых не чуваць было блізка. А аднойчы, ужо на другім годзе гэтай калатнечы, дай Бог памяць, такі завіталі яны і да нас у хату. Правіянту ім, пэўне, не хапала. Ну, і давай яны майго матлашыць. Такую тваю ды растакую — пад жонкіну юбку спратаўся? А родзіну зашчышчаць — дзядзя будзіт?.. Ды па мардасах, мае залатыя. Рускія былі, з акружэнцаў. Забралі майго мілёнка. Пачкі што год не бачыліся, можа, і болей, трасца яго ведае. Чула ад людзей, што партызаніць недзе аж за мястэчкам. Там лясы ды балоты адны, каго ён партызаніў?.. А тут ужо людзі сталі гаварыць, што нашы блізка, бытта ўжо і мястэчка вызвалілі. Бытта немцы ўцяклі, а партызаны і занялі яго. Ліха ведае, ці так гэта было. Ну, думаю, мае залатыя, і кармільца нашага за дзень-другі прычакаем з Зінулькай. Усё строюся, як сустрэць. І сустрэла Толькі зусім не так, як прыдумлялася. Відаць, упадабаў Божанька маю Зінулечку, спатрэбілася яму за анёлачка. У тры дні задушыла бедную шкарлятына праклятая. А перад самым пахаваннем Смагарыха прылятае, уся як не ў сабе: — Антоліца, любка, пераказалі сваякі з мястэчка, што яны ўжо два дні як без немца, а заўтра наранiцу нашых мужыкоў будуць грузіць, на фронт забіраць будуць. І Смагар мой там, і Грасімчык твой. Дамоў, сказалі, не пусцяць...

І ведаеце, дзеці, як бы ўсё перавярнулася ў мяне ўсярэдзіне, як бонба тая ўзарвалася. Завыла я, загаласіла. Правяла сваю крывіначку да крыжа ў канцы вёскі. Крычу ня помнячы сябе: — Людзі добрыя, а залаценькія мае, засыпце без мяне ў зямельку, не судзіце мяне... Развіталася, пашаптала малітву, якую знала — і колькі ёсць сіл, ледзьве не бегма, удзвёх са Смагарыхай — кумеллю ў мястэчка. А прамілы Бог не помню, як дапялі. Жарты, як не сорак кілёметраў. Ледзь не бязногія, а ўсё ж паспелі. Адно што здалёк і пабачыліся. Угледзеў ён мяне, рукамі махаў і крычаў нешта з машыны. Не прыслухала, як непрытомная была. Прагаласіла яму пра Зіначку нашу. Ужо з фронту таго пісаў, што пачуў усё-ткі...

І яшчэ суцяшаў Грасімчык маладую жонку ў тым франтавым лісце: калі выжыве, народзяць яны яшчэ шмат дзетак, абы ацалеў. І, трэба сказаць, слова сваё стрымаў. З інтэрваламі ў два-тры гады рэгулярна папаўнялі Героім з Апраметнаю насельніцтва Мяніцы, так што напрыканцы пяцідзесятых на ўсю вёску вечарамі разлягаўся крыху пастарэлы, але ўсё яшчэ звонкі голас Апраметнай:

—Лёдзька, Лорка, Валодзька, Васька — да-а-моў! Не было толькі ў гэтым вечаровым згуканні Зінулькі ды яшчэ першай пасляваеннай дачушкі Зосі. Чарнеючы ў працы, не дагледзелі: на другім ейным гадочку, увосень, калі лушчылі фасолю, запіхнула дзіцятка адну фасолінку ў роцік ды і папярхнулася — у дыхальнае горлачка трапіла. Пакуль даўмеліся, што да чаго, — не было ўжо як уратаваць.

Ды недарэмна кажуць: бяда адна не ходзіць. Годам пазней, акурат таксама ўвосень, упаляваў старшыня Героіма з рэзгінамі калгаснай саломы. Усе і ўсё кралі, бо, як спявалася ў песні, "усё вакруг калхознае, усё вакол маё", а "майго" якраз і бракавала. А ён загрымеў на два гадочкі Хоць да таго часу і свой Сталін у Мяніцы быў, а вось жа ўпяклі...

Напэўна, ведаў тады Героім, што не адну ўсё ж пакідаў Апраметную: пад сэрцам у яе варушылася новае жыццё, якому таксама не вельмі багата было адмерана на гэтым свеце. Парок сэрца ад нараджэння, з-за якога яна так і не выйшла замуж, звёў у магілу медсястру Леакадзію Гарасімаўну ў няпоўныя сорак гадоў.

І чуецца мне зноў голас пакутніцы цёткі: "А што паробіш, мае небажаткі, Бог даў — Бог узяў".

—А гэта ж было, залаценькія мае, зусім неўпрадых. Мужык, бедны, у турме баланду сёрбае ні за што, каровы няма, на працадзень — на тую чортаву палачку — амаль нічога не даюць. Нарадзіць нарадзіла, ды ляжыць мая Лёдзечка, роцікам хаўкае, а мне і пакласці ў яго нямашака чаго. У самой малака — адкуль яно ў галоднай цыццы возьмецца? Зраблю сусла з гарохавага лапуна, суну небажатку ў рот, сяду побач і замест "люлі-люлі" — галашу на ўсю Мяніцу, Гарасімку свайго гукаю. І ведаеце, залатыя, які грэх на душу брала? Госпадзе, думаю, хай бы ты, можа, і гэтае дзіцятка забраў да сябе, каб не пакутавала. Смерці свайму дзіцятку прасіла А вось жа не тады спатрэбілася Богу...

Праўду казаць, пасля турмы ў Героіма з Апраметнай жытка як бы пачала трохі ладзіцца. Сталі ўжо той працадзень (слова якое — даруй, Божа) трохі болей атаварваць. Пачалі радзіць яблыкі, што па вайне амаль адразу пасадзілі. А на іх гледзячы, пачала зноў радзіць Апраметная. Адно за адным на свет з'явіліся Лорка, Валодзька, Васіль. Замычала ў хляве адвечная сялянская кармілецька — карова, завісчалі парасяты. Героім, горды апошнімі сваімі сынамі, часам клаў парэпаную, мазолістую пяцярню на шчаціністае сваё падбароддзе і сам сабе мройліва прамаўляў: "Гэныя выжывуць"... А аднойчы вяскоўцы падслухалі роспачную Героімаву выснову, якая доўга пасля гуляла па Мяніцы. Неяк вечарам, стоячы на высокім драўляным ганку сваёй хаты, гукаў ён на ўсю ваколіцу Лорку, Валодзьку, Васілі, не дагукаўшыся, скрушна-галасна ўздыхнуў: "Рабіў, рабіў гэтых спінагрызаў, здаецца, столькі нарабіў — на табе, няма каму карову загнаць"... Сплюнуў і борздзенька пайшоў у хату, нібыта дарабляць недаробленае. І, відаць, меў на гэты конт яшчэ нейкія планы, бо ноччу патаемна шаптаў на вушка сваёй любай Антосьцы: "Не нудзіся, мая галубка, былі б мы, а дзеці будуць".

Больш дзяцей у іх не было. Не тыя сілы былі, ды і Апраметная бралася ўжо на "ягадку" — пад сорак пяць. А гэтыя дзеткі, пакуль пры бацьках, раслі і дужэлі, каб аднойчы выпырхнуць з гнязда, кожны ў свой апошні, незваротны вырай... Лёдзька пасля сямігодкі скончыла медвучылішча, медсястрой працавала ў вялікай бальніцы пад Мінскам. Лорка недзе ў семнаццаць выскачыла ў няўдалае замужжа ў мястэчка. Ледзь не з першага года біў-малаціў яе раўнівец муж, чэзла Лорка на вачах. Дзяцей доўга не было: цяжарыла, але праз гэтую калатнечу скідвала іх дачасна. А як дайшло да першых родаў — прыняў бог Лорчыну душу разам з немаўляткам, якое і на свет не паспела глянуць...

Валодзькам ганарылася ўся вёска, не толькі бацькі. Вучыўся добра. Пасля дзесяці класаў закончыў Выбаргскую авіямарскую вучэльню (была тады такая). Закончыў з адзнакай. Калі прыехаў на пабыўку ў Мяніцу ў сваёй ладнай марской форме з залачоным корцікам на баку, — дзеўкі як не павар'яцелі, на шыю вешаліся. А ён за лічаныя пяць дзён у мястэчку пазнаёміўся ды адразу і высватаў дужа вабную жыдовачку Лілю. Так-сяк справілі незгадана-раптоўнае вяселле, і звёз ён сваю Лілечку ў далёкі расейскі горад Беламорск. Праз восем гадоў (акурат іх адзіны сын Ромка ў першы клас пайшоў) зарэзала тая абранніца Валодзьку тым самым залачоным корцікам. Выпіў на службе, балазе спірту ў ваякаў заўсягды хапала, заваліўся дома ніцма на канапу, захроп — яна і саданула яму тры разы паміж лапатак. Так і не прачнуўся небарака. Яе самую за грэх смяротны Бог неўзабаве пакараў. Пачула нядобрае ў грудзях, дактары знайшлі нібыта не злаякасную пухліну, ажно пазней аказалася — рак Ён яе і даеў ускорасці. Асірацелы Ромка напачатку гадаваўся ў мястэчку ў Лільчыных бацькоў, у Мяніцу — ніколі ні крый Божа. Апасля з'ехаў, кажуць, некуды ў Віцебск і стаў адмысловым жулікам. Пэўна, ужо недзе косці парыць ці з турмы не вылазіць. Ніколі пра гэта так і не даведаліся ні Героім, ні Апраметная...

Міналі гады, старэлі людзі ў Мяніцы, мянялася калгаснае (пазней — саўгаснае) і сельсавецкае (уласна, як і ўсё савецкае) начальства. Так і не дачакаўшыся таго абяцанага і такога хвалёнага камунізму, на вачах пачалі старэць любыя майму сэрцу цётка і дзядзька. Надламала іх жыццё, надарвала, знявечыла сваёй жахлівай безвыходнасцю. Не чуваць было болей гармоніка з іхняе хаты. Ды і хата была ўжо не тая, іншая, нават на іншым месцы: тая пайшла полымем, урэшце як і амаль уся Мяніца, калі брыгадзіраваму сыну, боўдзілу-падлетку, прыспічыла падсмажыць на агні сала ў бацькавым дапатопным гумне. Ацалела з дзесятак двароў, якія на нейкі час і прытулілі пагарэльцаў. Наноў будавалася Мяніца доўга і пакутна. І болей з-за таго, што лес, дакляраваны народнай уладай на адбудову, мабыць, таксама недзе гарэў сінім полымем на пакутным сваім шляху ад дзялянкі да Мяніцы. І ўсё ж неяк адбудаваліся.

Як бы ўжо спрытней стала жыць. У саўгасе сталі замест "палачак" нейкую капейчыну даваць — не ахці якую, а ўсё ж капейчыну. Свая гаспадарка, хоць і душыла горай за саўгасныя буракі ды лён, але затое і дзякавала бульбачкай, малачком ды мясінай. І ўсё, можа, было б нічога ў Героіма з Апраметнай, каб не разбасачыўся раптам

*(Працяг на стар. 12)*





## Беларусь—Чэхія: новыя дачыненні

Тое, што наша краіна знаходзіцца на перакрыжаванні дарог і культурных шляхоў Еўропы, вядома даўно. Яшчэ раз у гэтым давялося ўпэўніцца, калі ў Беларусь завіталі вядучыя альтэрнатыўныя гурты Чэхіі "Uz jsme doma", "MCH Band", "Echt!", якія прыехалі ў Мінск у рамках гастрольнага тура Польшча—Беларусь—Літва—Латвія—Эстонія—Расія — "Чэшская музыка на шляху".

Гэты тур па Беларусі арганізавала гастрольнае агенцтва АМР пры падтрымцы Міністэрства замежных спраў Чэшскай Рэспублікі, Упраўлення чэшскіх цэнтраў і Магістрата Прагі.

У Мінск чэшскія альтэрнатыўшчыкі прыехалі з Гародні, дзе напярэдадні адбыўся першы канцэрт у рамках беларускай часткі тура "Чэшская музыка на шляху".

Падчас прэс-канферэнцыі, што адбылася перад выступленнем гуртоў у парк-клубе "Мінск", чэшскія музыкі распавядалі пра стан і мэты альтэрнатыўнага рок-руху ў гэтай краіне. "Мы ставім за мэту пашырэнне межаў чэшскай альтэрнатыўнай музыкі", — зазначыла ва ўступным слове прадстаўнік АМР Бланка Штраўблава.

Высветлілася, што з беларускай рок-сцэны чэшскія музыкі ведаюць толькі гурт "Уліс"...

У сувязі з напружанай моўнай сітуацыяй у Беларусі, гэтая тэма абмяркоўвалася і з чэшскімі музыкамі. Музыкант гурта "Uz jsme doma" Радэк Падвескі зазначыў: "Мы заўсёды спяваем па-чэшску і ў Еўропе, і ў ЗША. І гэта важна ў той час, калі пераважае камерцыйны падыход — гурты спяваюць па-англійску ці па-нямецку". Факт дастойны пераймання.

Канцэртную частку тура распачаў беларускі гурт "Без білета", які прадставіў свае песні з новай праграмы "На Неба" і знакаміты хіт "Мая краіна — Беларусь!"

Непасрэднае знаёмства з чэшскай альтэрнатыўнай музыкай пачалося з выступу гурта "MCH Band" пад кіраўніцтвам Мікалаша Хадзіма. Ён прадставіў на суд слухачоў складаны сплаў джаз-рока, псіхадэліка, сімфанічнай кампазіцыі з сацыяльна завостранымі тэкстамі песень.

Гурт "Echt!" прапанаваў беларускім слухачам кампазіцыі на стыку музыкі кантры, рок-н-рола, рытмаў полькі. Слухачы адчулі і ацанілі магутную энергетыку, гумар і сатыру ў стылі Ярaслава Гашака.

Асаблівы поспех выпаў культаваму чэшскаму гурту "Uz jsme doma", які грае хард-рок-панк з выразнымі элементамі мараўскага фальклору і мелодыкі.

**А. МІТРАНОВІЧ**

## Музыкі за экалогію

Зрабіць змены ў псіхалогіі людзей на карысць экалагічнага мыслення — задача недзяржаўных экалагічных арганізацый. Буйнешая з іх "Next Stop — New life" не так даўно ладзіла ў парк-клубе "Мінск" экалагічную акцыю "Музыкі за экалогію. Мяняем пластык на здароўе", дзе арганізатары тлумачылі моладзі шкоду для навакольнага асяроддзя, здароўя людзей некаторых вырабаў з пластмасы, а таксама знаёмілі з напрамкамі экалагічнай дзейнасці "Next Stop — New life", іншых аналагічных аб'яднанняў.

Музычная частка акцыі "Мяняем пластык на здароўе" складалася з прэзентацыі новага зборніка беларускай рок-музыкі "Вольныя танцы: альтэрнатыва by". А распачаў яе малады і таленавіты гурт "Млын", які апошнім часам грае арыгінальную і насычаную музыку. Група "Нейро Дюбель" для сваіх прыхільнікаў выканала беларускі блок песень ("Беларусь перадусім", беларускамоўнага "Амерыканца", кавер песняроўскай "Вологды").

Эстафету экалагічна-музычнай акцыі падхапілі беларускія фолк-рок-гурты "Postckriptum", "Зьніч", "Акруга вольнага мастацтва", "Без білета", мелодыі якіх прымусілі слухачоў успомніць, што такое "танчыць вольна": яны вадзілі карагоды, спявалі разам з кумірамі.

На гэтай сумеснай акцыі "Next Stop — New life" і БМА-груп асаблівы поспех напаткаў знакамітую Касю Камоцкую і музыкаў яе гурта "Новае неба", якія на "біс" выканалі свой хіт "Котка". Паспяховым былі дэбютныя выступленні маладых гуртоў, што прадстаўлялі рэгіёны Беларусі: гурта "Айша" (Гародня), "Аўтаномія" (Маладзечна), "Зелень дарог" (Віцебск).

А завяршальную частку акцыі музыкі гурта "Палац" і Dj Raj-Хвісевіч, якія давялі слухачам, што фальклор і сучасная дэнс-музыка, калі яна зроблена з густам, могуць добра суіснаваць.

Падчас экалагічнай вечарыны "Абмяняем пластык на здароўе" у зале працавалі прадстаўнікі розных недзяржаўных экалагічных арганізацый нашай краіны, тлумачылі маладым людзям пра тое як і чым можна зберагаць прыроду Беларусі, як уладкавацца ў валанцёрскія экалагічныя атрады ці проста ўступіць у "Next Stop — New life".

ТВОРЧАСЦЬ

# Кампазітар у адсутнасці... музыкі

***Знаёміць нашых чытачоў з Галінай Гарэлавай няма патрэбы. На Беларусі яе імя ведае кожны культурны чалавек. Імя яе ведаюць і за мяжой.***

***Многія ў захапленні ад яе музыкі, ад яе па-мастацку зробленых музычных радыёпраграм, ад яе змястоўных і жывых маналогаў, ад яе эмацыянальных і палемічных развагаў, — што разам успрымаецца як арганічны працяг унутранага жыцця нешараговай творчай натуры.***



З адмысловай жаночай мудрасцю, адначасова і спакойна, і ўсхвалявана сустрэла Галіна Гарэлава свой сёлетні юбілей. Сустрэла ў клопатах не пра ўрачыстыя імпрэзы, а пра лёс новай партытуры, пра лёс цяперашніх сваіх студэнтаў. Гэтыя ды іншыя клопаты адчуваліся ў яе глыбока прадуманых-перажытых і адкрытых выказваннях на сакавіцкіх старонках "ЛіМа"...

І вось арганізацыяй творчай вечарыны таленавітай і знанай юбіляркі заняліся нібыта яе сябры-прыхільнікі, якія мелі для ажыццяўлення сваіх лепшых намераў бясплатную залу Саюза кампазітараў. Хаця такая унікальная асоба, ды яшчэ ганараваная Дзяржаўнай прэміяй Беларусі, заслугоўвала афіцыйнай увагі ды падтрымкі, правядзення аўтарскага канцэрта ў зале сталічнай філармоніі. Ініцыятараў гэтай справы ні ў Міністэрстве культуры, ні ў падначаленых яму ўстановах, на жаль, не знайшлося.

Што ж: саюз — дык саюз, цеснае, але роднае прафесійнае асяроддзе. І народу сабралася нямала: калегі, музычныя крытыкі, выканаўцы, студэнты Беларускай акадэміі музыкі. Неафіцыйна, нецырымонна. Кветкі, добрыя словы. Арыгінальнае віншаванне ад ансамбля "Сірынкс" на чале з мастацкай кіраўніцай Нінай Аўраменкай, які пад імправізаваныя рулады флейты каранаваў Галіну Гарэлаву вяночкам з сапраўднага лаўровага лісця. Эмацыянальнае выступленне аднаго з самых першых яе настаўнікаў па кампазіцыі — Кіма Цесакова. Высокая ацэнка яе таленту і працавітасці ад прафесара Дзмітрыя Смольскага.

Ён, між іншым, выказаў шкадаванне, што найлепшыя творы Гарэлавай, напісаныя ў вакальна-сімфанічным жанры, вельмі рэдка выконваюцца на філарманічнай сцэне і нават з нагоды юбілею кампазітара мы не можам паслухаць гэтыя ўзоры творчасці. Добра, хаця б ёсць магчымасць спрычыніцца да ўзораў творчасці камернай — тут Г. Гарэлава мае значныя і разнастайныя набыткі.

Сапраўды, паводле задумы арганізатараў імпрэзы, мела адбыцца своеасаблівая прэзентацыя музыкантамі-выканаўцамі творчых дарункаў юбілярцы — агучванне вядомых і новых старонак яе камернай творчасці. А ў выніку...

Такой "безмузычнай" аўтарскай вечарыны, пэўна, не было ні ў гісторыі Саюза кампазітараў, ні ў практыцы канцэртных установаў, ні ў біяграфіі самага няздарнага шараговага творцы! Апраўданнем арганізатараў няўдалага сюрпрыза гучала, прыкладна, такое: не прыйшлі, хаця й паабяцалі, запланаваныя выканаўцы, правалілі задуму...

Ну, а тыя, што прыйшлі?

Самым шчырым, трапятлівым і адказным музыкантам выглядала маладая піяністка Вольга Маняці, якая ў паўзмроку (зусім не мастацкім, а "тэхнічным": над сцэнай Саюза кампазітараў перагарэлі ці не ўсе лямпачкі) грала, пранікнёна і ўсхвалявана, п'есу Г. Гарэлавай "Ліліт" з цыкла "Спакушэнне Адама". (Дарэчы, кампазітар прысвяціла ёй свой новы фартэпіянны опус). Віртуозныя пасажы флейты, што суправаджалі рытуал "каранацыі" юбіляркі лаўровым вянком, лічыць нумарам канцэртнай праграмы, вядома ж, не выпадае. Выступленне камернага трыо пад кіраўніцтвам Якава Гелера ўспрымалася як звышдасціпны музычны прэзент: гучала п'еса "Адлюстраванні сонца ў вадзе" Дзмітрыя Лыбіна. Добра, што сам аўтар быў у гэты час на фестывалі за мяжой: такім чынам выкананне ягонай музыкі на юбілейнай вечарыне калегі можна было трактаваць як "нябачную прысутнасць", як віншавальную тэлеграму...

Адсутнасць музыкі не маглі замяніць ні рызыкоўна-дзёрзкія каламбуры вядучай вечара, ні красамоўства выступоўцаў, ні

ГАСЦЁЎНЯ

# Кумір не мае права расчароўваць...

***Сёлета заслужаны артыст Беларусі Алег Цівуноў адзначае 20 гадоў творчай дзейнасці, якая, дарэчы, пачалася для вядомага цяпер эстраднага спевака ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі Беларусі. Вось і нагода пагутарыць, падсумаваць зробленае, асэнсаваць далейшыя планы.***

**— Алег Барысавіч, скажыце, ці задаволены вы зараз сваім жыццём?**

— Рэч у тым (усміхаецца. — **В. Н.**), што задаволеным можа быць толькі вар'ят. Чалавек мае такую асаблівасць, што нягледзячы на тое, добра яму ці блага, ён усё роўна незадаволены ў добрым сэнсе слова.

**— А ўвогуле, вы аптыміст?**

— Безумоўна!

**— У дзяцінстве вы ўяўлялі сябе тым, кім сталі цяпер? Пра што вы марылі?**

— Я марыў стаць юрыстам, потым — вайскоўцам... Але пасля з'явілася думка аб прафесіі артыста. Быў такі цікавы выпадак. У нашай школе існаваў драмгурток. І мне вельмі туды хацелася, але я не падыходзіў з-за ўзросту — вучыўся ў 7 класе (хаця быў хлопчыкам высокім і вялікім). І вось аднойчы на лесвіцы мяне "падлавілі" старшакласніцы: "Так! Вось ён, Цівуноў, давайце яго да нас!" Аказалася, захварэў адзін з іх артыстаў. Кіраўнік гуртка сказаў мне прачытаць нейкі верш, маналог... Вырашылі, што я падыходжу. І вось тады я падумаў: "Калі вырасту і буду вядомым артыстам, я ўспомню гэты момант..." Урэшце, так і атрымалася.

**— Якую ролю вы тады сыгралі ў школе?**

— Цудоўна помню — п'еса Міхаіла Святлова "Праз 20 гадоў", я іграў мушкецёра і хлопчыка, бо там была п'еса ў п'есе. Потым у нас ішлі іншыя спектаклі. Пачаў займацца непасрэдна вакалам, бо вучыўся ў музычнай школе. Потым іграў у ансамблі на клавішных інструментах. Вось тыя ланцужкі, якія адыгрываюць у жыцці чалавека невыпадковую ролю.

**— А ў што вы верыце: у Бога, у лёс?**

— Ва ўсё. І ў Бога веру, і ў царкву хаджу. Але ж не падумайце, што гэта ў лад часу ці модзе. Я быў доўгі час нехрышчаны. А потым аднойчы, калі прыехаў на радзіму, мяне пахрысцілі. Мне тады было, здаецца, 34, і з таго часу я па нядзелях хаджу ў царкву — ёсць такая патрэба.

**— А дзе ваша радзіма?**

— У Арле. А на Беларусь я трапіў даўно — 20 гадоў таму, пасля заканчэння ГІТІСа. Акцёрская кар'ера раней пачыналася толькі праз атрыманне добрай адукацыі. Я атрымаў спецыяльнасць "артыст оперы, аперэты і музычнай эстрады". Многія мае аднакурснікі сёння — цвет опернага мастацтва Расіі і нават замежжа. Напрыклад, Аляксандр Ціцель — галоўны рэжысёр тэатра імя Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі, мой сябар Віктар Шосць працуе ў Мюнхенскай оперы... Я быў маладзейшы за ўсіх на курсе і хварэў эстрадай, я быў па сутнасці сваёй эстраднік. Але калі скончыў ГІТІС, паехаў адпаведна размеркаванню ў Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі Беларусі. Праз тры месяцы я пайшоў на эстраду, але мяне тут жа прызвалі ў армію. Я служыў у Ансамблі песні і танца Беларускай ваеннай акругі. Вось якраз там і пачалася мая афіцыйная пеўчая кар'ера. У нас быў унікальны — цудоўны — склад. Тады праходзілі агляды ваенных ансамбляў, і Беларуская акруга была ў гэтым адна з мацнейшых: вялікі аркестр, поўны хор. Разам са мной служылі Аляксандр Куркоў, які цяпер танцуе ў Санкт-Пецярбургу, піяніст Ігар Алоўнікаў, многа будучых вялікіх чыноўнікаў. Дэмабілізаваўшыся, я зноў прыйшоў у тэатр.

**— Чым запомнілася вам праца ў тэатры?**

— Я перажыў залатыя гады тэатра музкамедыі і ўдзячны гэтаму. Але я бачыў і тое, як тэатр быў "раздаўлены" чыноўнікамі. Я заўсёды з удзячнасцю ўспамінаю гады працы ў музкамедыі, лепшыя гады майго жыцця: мне было 22, калі я туды прыйшоў, і 28, калі я канчаткова выбраў эстраду. Я сыграў усё, што хацеў, — усе галоўныя ролі, і прыгожа — з бенефісам — у 1991 годзе пакінуў тэатр.

**— Алег Барысавіч, для чаго ўвогуле працуе артыст?**

— Працуе для таго, каб зарабляць грошы, а стварае — паводле закліку душы. А ўвогуле, я заўсёды кажу, што людзі, якія займаюцца творчасцю, адносяцца да нармальнай катэгорыі ненармальных людзей. Гэта тое самае, што публічныя палітыкі, якія



імкнуцца сябе рэалізаваць перад аўдыторыяй. Вось гэтая публічнасць — ненармальная рэч, таму што большасць людзей займаецца сваёй працай і не імкнецца да публічнасці. А мы, нібы вар'яты, выходзім на сцэну, таму што без гэтага не можам жыць. Без гэтых зносін з глядзельнай залай, без гэтага наркотыку — сцэны — мы не існуём.

**— Ці можна назваць творчасць вашым хобі?**

— Мне пашчасціла, напэўна, у тым, што гэта сталася і маім хобі, і маёй працай. Калі б мне не падабалася мая праца, мне было б дрэнна, нецікава. Ды і ўвогуле прафесіянал таму так і называецца, што яго прафесія дае яму спосаб жыць. Таму і раздзяляюць паняцці "хобі" і "прафесія". Для мяне творчасць — адзіны сродак існавання і майго духоўнага самасцвярджэння — таго, што я і лічу сваім хобі.

**— Што вы цэніце ў людзях, а чаго не можаце дараваць?**

— Я цаню ў людзях дзелавітасць, прыстойнасць у адносінах да слова і справы. Паняцце асабістай прыхільнасці для мяне не існуе, я цаню адданасць ідэі. Я ненавіджу

ўхвальныя воклічы і гарэзлівы настрой студэнтаў у зале. Чыесьці арганізацыйныя недарэчнасці Галіна Гарэлава мусіла годна выпраўляць сама: шчырай размовай. Разважамі пра жыццё, пра творчасць, пра неспадзяваныя крыніцы натхнення...

Ці варта зараз гэтак падрабязна прыгадваць саматужную спробу свята для выдатнага і шаноўнага чалавека? Неўзабаве ж Галіна Гарэлава, яе сябры і прыхільнікі перажылі сапраўды святочныя хвіліны. Хвіліны фестывалю "Мінская вясна", калі гучала прэм'ера яе вытанчанай, чулліва-настальгічнай сюіты для гітары і клавесіна "Успамін пра Нясвіж", прысвечанай Валерыю Жывалеўскаму (гралі Ян Скрыган ды Надзея Русіна). І яшчэ — калі канцэрт, прымеркаваны да пяцігоддзя спецыяльнага прэзідэнцкага фонду "Таленты Беларусі" адкрылі мажорныя перазовы яе "Фанфараў" у выкананні ансамбля трубачоў "Інтрада" (мастацкі кіраўнік Мікалай Волкаў)...

Што ж, прызнанне музыкі ў асяроддзі выканаўцаў, яе захопленых прыём слухачамі — сапраўдны крытэрый творчай працы, непараўнальна вышэйшы за ўмельства "прабіць" аўтарскі канцэрт у філармоніі. Дык жа калі дзяржава, кіраўнікі культуры не знаходзяць падстаў ці мажлівасцяў ісці насустрач талентам і паводле ўласнай ініцыятывы рабіць свята для лідэраў айчыннага музычнага мастацтва, пачынаеш, як той казаў, "думаць рознае". Тым болей, калі заўважаеш на афішы малазнаёмае прозвішча кампазітара-пачаткоўца, для ўвасаблення індывідуальнага аўтарскага праекта якога спраўна і хутка знаходзіцца ўсё: прэстыжны фестывальны час, філарманічная зала, сродкі на аплату выканаўцам... Аднак не будзем адбіраць у прадстаўніка новага пакалення права на "камерцыйную таямніцу": а раптам гэта адзінае, што ў яго ёсць?

Затое таямніца творчасці... Яе ні забраць, ні купіць, ні разгадаць немажліва. Пра яе можна задумвацца, разважаць. У прысутнасці творцы або разам з ім. А яшчэ лепей, калі за творцу-кампазітара гаворыць яго таямнічае свавольнае дзіця — музыка. Дыялогі з музыкай Галіны Гарэлавай не стамляюць. Іх не хапае. Іх можа быць больш у нашым канцэртным жыцці.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота М. ПРУПАСА*

двудушнасці ў людзях, подласці — гэтага не дарую. А слабасці з задавальненнем дапускаю.

**— У вас,напэўна, шмат прыхільніц?**

— Я рэальны чалавек і цудоўна ўяўляю, хто мае прыхільніцы. У мяне дарослыя, сталыя прыхільніцы, жанчыны бальзакаўскага ўзросту, што мяне, дарэчы, вельмі грэе. У мяне няма прыхільніц сярод юных дзяў — таму што накіраванасць маёй творчасці якраз разлічаная на бальзакаўскіх жанчын. Гэта свядомая пазіцыя, прадуманая. Песні ў спевака ідуць ад сэрца. Я шчыра хачу так тварыць. У кожнага артыста прыхільнікі нараджаюцца з ім, і, умоўна кажучы, з ім паміраюць. Твае прыхільнікі — гэта самае дарагое, што ёсць у спевака, і самае галоўнае — не расчараваць іх. Што, дарэчы, часта бывае. Але калі ты кумір, ты не маеш права расчароўваць. А калі ты гэта робіш, значыць ты не той, за каго сябе выдаеш.

**— Ці пойдуць дзеці па вашых слядах?**

— Дзеці ў мяне яшчэ маленькія — у маім разуменні: сыну 13, дачцэ — 12 гадоў. Яна вельмі старанна займацца ў эстрадным танцавальным ансамблі. Ёй гэта вельмі падабаецца. Хаця я, шчыра кажучы, працўнік таго, каб мае дзеці звязвалі сваё жыццё са сцэнай. А сын, як усе хлопцы, цікавіцца камп'ютэрамі, спортам: веласіпедам, скейтбордам...

**— Раскажыце пра ваш новы тэатр.**

— Калі Маладзёжны тэатр эстрады быў перададзены пад апеку Беларускага інстытута культуры, я зразумеў, што мне гэта цікава. Аб'явіў трупе, што вырашыў пайсці, і прапанаваў: "Я магу працягваць працу з вамі, а магу — як сольны выканаўца". Большасць згадзілася працаваць са мной. Вось так і нарадзіўся новы тэатр "Эклектык".

**— Чаму менавіта так вы яго назвалі?**

— Слова "эклектык" азначае змяшанне несумяшчальнага: жанраў, стыляў і г. д. У нашай трупе ёсць артысты розных жанраў, і я хацеў, каб усё было апраўдана. Калі гэта прафесійна, пераканаўча — усяму ёсць месца на сцэне. Мы пайшлі з Маладзёжнага тэатра эстрады 1-га лістапада, а 20 снежня зрабілі прэм'еру. Нічога не ўзялі чужога, музыку пісалі два кампазітары: Фёдар Жэляк і Алег Цівуной на вершы Алены Аўчыннікавай і Рамана Фрыдмана. Добра ведаючы трупу, мы падбіралі нумары пад кожнага выканаўцу. Калектыў вялікі — 22 чалавекі. Я нясу адказнасць за гэтых людзей і раблю тое, што мне цікава. Я заўсёды раблю тое, што мне цікава. Сёння мы працуем амаль выключна з-за любові да мастацтва. Плады нашай працы абавязкова будуць, бо можна ж думаць пра грошы сёння, а можна пра перспектыву на заўтра.

**Гутарыла Вольга НАВАЖЫЛАВА**

*Фота С. СМІРНОВА*

ВЫСТАВЫ

# У тэхніцы акварэлі





У Мінскай бібліятэцы імя Л. Талстога адбылася выстава твораў мастачкі Галіны Бараноўскай (акварэль, каляровы аловак), прысвечаная 2000-годдзю Раства Хрыстова.

Галіна Бараноўская — мастак-архітэктар па адукацыі, усё жыццё працуе ў тэхніцы акварэлі і, як паказала апошняя персанальная выстава, дасягнула ў гэтым значных поспехаў. Сюжэтамі яе карцін часцей за ўсё з'яўляюцца архітэктурныя помнікі, якія намаляваны ў светлых танах лёгка і свабодна. Яны адметныя выразнасцю каляровай палітры. Велічныя і простыя цэрквы, капліцы, манастырскія пабудовы яна паказвае нам сярод жывой прыроды. На невялічкіх па памерах карцінах можна прасачыць простую жыццёвую непасрэднасць успрымання прыроды, яе вечна зменлівы стан. Для мастачкі важным з'яўляецца пошук гармоніі архітэктуры і прыроды.

Трэба адзначыць, што Г. Бараноўская стварае архітэктурныя матывы, пейзажы на пленэры. Дэталі акварэльнай кампазіцыі строга адпавядаюць таму, што бачыць мастачка перад сабой у сапраўднасці на кавалачку ландшафту. За ўважлівасцю прафесійнага разглядвання гістарычных помнікаў, архітэктуры Беларусі стаяць асабістыя, чалавечыя адносіны да іх. Мастачка як бы разважае пра іх лёс. Асабліва гэта можна прасачыць у серыі "Пасынкі Беларусі". За многія гады помнікі занялалі, многія знішчаны назаўсёды ў бясконцых войнах і рэвалюцыях. Аб гэтым амаль што крычаць акварэльныя замалёўкі архітэктурных помнікаў нашай шматпакутнай зямлі. Пачатая мастачкай у 1987 годзе серыя доўжыцца па сённяшні дзень.

Вялікае значэнне мае характар самой тэхнікі выканання — акварэль па сырой паперы. У вялікіх плямах каляровых і светлавых пераходаў прысутнічаюць альбо дэкаратыўная, або жывапісная акцэнціроўка. Лепшыя пейзажы Галіны Бараноўскай прасякнуты сапраўднай паэтычнай усхваляванасцю, яны душэўныя і праўдзівыя: гэта серыі "Жыровіцкі манастыр", "Мінск. Верхні горад", "Царква святой Магдалены", "Ўваскрасенскі сабор", "Святадухаўскі манастыр", "Дом-сядзіба Ваньковічаў", "Петрапаўлаўская царква", "Замак у Міры", "Навагрудак. Рэшткі крэпасці", "Вежы Гальшанскага замка" і інш. Апошнім часам яна працуе каляровым алоўкам над серыяй "Заслаўе".

**Галіна ФАТЫХАВА**

# Пакуль ідзе рэстаўрацыя...

***Дырэктар гродзенскага Беларускага музея гісторыі рэлігіі Людміла Карнілава працуе ў гэтай установе 24 гады. Пачынала старшым навуковым супрацоўнікам, была загадчыцай аддзела каталіцызму, намеснікам дырэктара па навуковай рабоце. З 1993 года — дырэктар музея. Удзельнічала ў стварэнні першых экспазіцый. Стажыравалася ў Расіі, Польшчы, на Украіне, Летуве. Спецыялізуецца на вывучэнні гісторыі каталіцкіх ордэнаў, мае навуковыя публікацыі.***

**— Людміла Аляксандраўна, раскажыце, як пачынаўся музей.**

— Наш музей нарадзіўся ў Полацку. У 1977 годзе пачынаецца яго гродзенскі перыяд. Я ў той час якраз заканчвала гістарычны факультэт нашага пединстытута. Пачула, што дырэктар музея, пісьменнік і краязнаўца Аляксей Карпюк шукае супрацоўнікаў. Завітала да яго. Так апынулася ў штаце. Хаця які там штат! Дырэктар, Ніна Ляшчонак ды я. Ніна Іванаўна была сярод нас самым вопытным спецыялістам.Яна пагадзілася пераехаць з Полацка ў Гродна, дапамагчы ў стварэнні па сутнасці новага музея. Суправаджала экспанаты — каля 1800 адзінак. Напачатку размясцілі рэчы на захаванне ў Каложскай царкве.Тады яна яшчэ не была перададзена вернікам. Вось так і пачыналі...

**— Афіцыйнае адкрыццё музея адбылося ў 1985 годзе. Чым парадавалі першых наведвальнікаў?**

— Прыстойнымі экспазіцыямі. Пакуль ішла рэстаўрацыя музейнага памяшкання, мы таксама працавалі. Вывучалі гісторыю царквы, помнікі рэлігіі ў Беларусі, рэгулярна адпраўляліся ў экспедыцыі па Гродзеншчыне. Фонды папаўнялі паступленні з Вільні, Мінска, Санкт-Пецярбурга, Рыгі. Мы ездзілі туды і дамагаліся, каб набыць патрэбнае. Праз абменна-рэзервовыя кніжныя фонды займелі старажытныя рэлігійныя выданні. У 1988 годзе ўжо мелі 26,5 тысячы экспанатаў агульных фондаў. Сёння — 71708. З 1985 па 1998 гады было арганізавана шмат выстаў. Найбольш запамінальнымі застаюцца "Кніга-кірыліца на Беларусі", "Кніга-лацінка на Беларусі", "Помнікі меднага ліцця", "Звонкае рэха стагоддзяў" (гісторыя званоў), "Повязь часоў. Беларускі ручнік", "Барока на Беларусі", "Нам засталася спадчына" (беларускі нацыянальны строй), "Гарадская культура пачатку ХХ-га стагоддзя"...

**— Аднак гэта, на жаль, ужо ў мінулым. Музей зноў перасялілі. Ідзе рэстаўрацыя памяшкання, і час адкрыцця экспазіцыі на новых выставачных плошчах пакуль што ніхто не можа назваць. Зноў як у 1977 годзе вымушаны прастой не па сваёй ахвоце?**

— У нейкім сэнсе гэта так. Што да прастою, то мяркуйце самі. Летась адзначаўся юбілей хрысціянства — дзве тысячы гадоў. Да традыцыйнай выставы "Вялікдзень — Свята Святаў" мы арганізавалі на чужых плошчах перасоўныя экспазіцыі "Біблія — Кніга Кнігаў" і "Вобраз Маці Боскай у іканапісе". Дарэчы, гэта эфектыўная форма работы — перасоўныя выстаўкі. Мы самі наведваем дзіцячыя садкі і школы. Для вучняў рознага ўзросту падбіраем адпаведную тэматыку, аздабляем гутаркі дэманстрацыяй нашых экспанатаў. Напрыклад, агучаны тэмы "Мая Радзіма — Беларусь", "Царква і культура ў Беларусі". У практыцы работы музеяў Беларусі такіх прыкладаў мала. Другі кірунак асветніцкай работы — супрацоўніцтва з мясцовымі гісторыка-краязнаўчымі музеямі. У Слоніме наведвальнікі хутка пабачаць выстаўку "Храмы Беларусі на старых паштоўках". У Дзятлаве шмат людзей паглядзелі экспанаты выставак "Беларускі ручнік", "Гарадская культура". Там жа падрыхтуем экспазіцыю "Свет сакральнага мастацтва". Запланаваны нашы выставы ў Навагрудку і Мастах.

Пры гэтым клапоцімся аб папаўненні фондаў. Кожны супрацоўнік мае свой кірунак працы. Нядаўна набылі кнігу пачатку 1800-х гадоў гродзенскага друку. Набываем культавыя рэчы, у прыватнасці, скульптурныя выявы Хрыста, Анёлаў, павялічваем запас абразоў. З Мінскай вобласці атрымалі рэдкую Калядную зорку з саломкі. Маем прапанову купіць старажытную велікодную талерку...

**— Адчуваецца, што музей наладзіў плённае супрацоўніцтва з гісторыкамі і краязнаўцамі Гродзеншчыны.**

— Гэта так. Прычым, не толькі вобласці. Вы звярнулі ўвагу на колькасць экспанатаў нашага агульнага фонду? Пачыналі з 1800 і выраслі амаль да 72 тысяч. Гэта прытым, што ў Гродзенскай вобласці ёсць музеі, вядзецца збор матэрыялаў. Значыць, далёка не ўсё знойдзена і вывучана. Тут роля краязнаўцаў неацэнная. Усе музейныя работнікі па вялікім рахунку краязнаўцы. Мы кантактуем са знакамітым Алесем Белакозам, іншымі дырэктарамі мясцовых музеяў, гродзенскімі навукоўцамі і краязнаўцамі Алесем Краўцэвічам, Дзмітрыем Каравым, Аляксандрам Госцевым, Вячаславам Шведам. Публікацыі гэтых аўтараў змяшчаліся ў зборніках "Наш радавод".

Марым пра той дзень, калі наведвальнікі нашага музея пабачаць новыя экспазіцыі. Мы імкнёмся рабіць такія выставы, каб яны доўга помніліся.

**Гутарыў Антон ЛАБОВІЧ**

*г. Гродна*

## Жыццёвых вёсен даляглядЫ

НІНЕ ТАРАС — 85



**Багатае на падзеі жыццё Ніны Міхайлаўны і лепшыя старонкі яго звязаны з самаадданым служэннем Бацькаўшчыне, рупнай дзейнасцю на карысць яе адраджэння. А нарадзілася Н. Тарас 15 мая 1916 года ў вёсцы Заполле цяперашняга Навагрудскага раёна. Вучылася ў Навагрудскай беларускай гімназіі, у Віленскай, якую скончыла ў 1936 годзе. Прымала актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху ў Заходняй Беларусі, а пасля вызвалення яе працавала ў лідскай раённай газеце "Уперад". У гады Вялікай Айчыннай вайны — сувязная лідскай спецгрупы партызанскай брыгады імя С. М. Кірава і партызанскага атрада імя Р. І. Катоўскага брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага. Пасля вызвалення тагачаснай Баранавіцкай вобласці ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў зноў працавала ў газеце "Уперад", а ў 1945—1946 гадах была стыльрэдактарам у Дзяржаўным выдавецтве БССР, пазней — літработнікам рэдакцыі газеты "Піянер Беларусі", літкансультантам пры рэдакцыі газеты "Звязда". У 1957 годзе скончыла Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве.**

**Пачатак выступлення ў друку адносіцца да 1936 года. У Ніны Міхайлаўны выйшлі кнігі паэзіі "На ўсход ідучы..." (1940), "Суніцы" (1946), "Вершы" (1952), "У тапаліную замець" (1976), "Праметэю прыйду пакланіцца" (1981) і іншыя. Для дзяцей напісала зборнікі паэзіі "Казкі пра абавязкі" (1955), "Наш бор" (1968). Некаторыя вершы яе сталі папулярнымі песнямі, найперш "Сонца за хмарамі ўранні...". Добра вядома Н. Тарас і як перакладчык з рускай, украінскай і польскай моў.**

**Для паэзіі яе характэрна шчырасць, непасрэднасць, чысціня пачуццяў лірычнай гераіні, лёс якой непадзельны ад лёсу Бацькаўшчыны. Хораша апявае Н. Тарас прыгажосць роднай прыроды, з захапленнем піша пра тых, хто жыве на нашай вечнамаладой зямлі.**

**З 85-годдзем, шаноўная Ніна Міхайлаўна! Яшчэ доўгіх год жыцця Вам! Заставайцеся і надалей душэўна маладой!**

## Слова пра Пысіна

**Паэт Аляксей Пысін часта ладзіў вечары паэзіі ў Магілёўскай абласной бібліятэцы, супрацоўнікі якой памятаюць пра гэта і ў знак павагі да знакамітага земляка штогод праводзяць літаратурныя чытанні, наладжваюць кніжныя выстаўкі твораў майстра паэзіі.**

**А зусім нядаўна краязнаўчы аддзел бібліятэкі надрукаваў на ксераксе бібліяграфічны даведнік "Слова пра Пысіна". У яго ўключаны разнастайныя бібліяграфічныя і фактаграфічныя матэрыялы пра жыццё і творчасць паэта. Ёсць біяграфічная даведка, звесткі пра яго творы, пра рэцэнзіі на іх. Тэма "Пысін і Магілёўшчына" раскрыта ў даведніку тэкстам бібліяграфічнага агляду.**

**Цікавы раздзел "У вянок А. Пысіну", які на грамадскіх пачатках падрыхтаваў аўтар гэтых радкоў. У яго ўвайшлі дзесяць вершаў (Рыгора Барадуліна, Святланы Басуматравай, Сцяпана Гаўрусёва, Сяргея Законнікава, Сяргея Грахоўскага і інш.), прысвечаных светлай памяці паэта, ды ўрывак з успамінаў і выказванняў пра яго дзеячаў культуры і пісьменнікаў (Валянціна Ермаловіча, Міколы Аўрамчыка, Рыгора Бярозкіна, Варлена Бечыка, Ніла Гілевіча, Віктара Карамазава, Аркадзя Куляшова, Алеся Пісьмянкова і інш.).**

**Для зручнасці карыстання ёсць паказальнік літаратуры пра жыццё і творчасць паэта, а таксама паказальнік імён, што сустракаюцца на старонках даведніка.**

**Бібліяграфічны зборнік разлічаны на краязнаўцаў, навучэнцаў і студэнтаў філалагічных факультэтаў навучальных устаноў, увогуле, на ўсіх аматараў роднай літаратуры.**

**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ**

ПАЭЗІЯ

Юрка ГОЛУБ



# Невідомыя арфы Сусвету

### Званар

*Над храмам згорблена завіс*
*Сусвету выпетраны воблік.*
*І падаў звон не зверху ўніз —*
*З зямлі караскаўся на воблак.*

*У павуціне крыўд маўчаў,*
*Вятрамі гвалту адсцябаны.*
*Яму і голас прызначаў*
*Не поп з прыплюшчанай плябані.*

*Званар з вяроўкай у руках*
*Захмар'я бэлькі раскалыхваў.*
*Апостал гукі сустракаў,*
*Вядзьмак цураўся, нібы ліха.*

*І сцягваў з кудлаў капялюш*
*Араты між часоў і крушняў.*
*А шматпудовай медзі куш*
*Меў падабенства з капялюшам.*

*Ні свет на свеце, ні зара —*
*Неабыяка люд вініцца.*
*І б'юцца грудзі званара,*
*Як звон на стомленай званіцы.*

*Рабы, як на рабіне дрозд,*
*І паварушыць вухам ледзьве,*
*Ён вызначае звону ўзрост*
*Па векапомным гуку медзі.*

### Спроба балады пра абарваны дрот

*Правады прывялі*
*На адцінак зыходны.*
*Хутар, бы равелін,*
*На пачатку заходнім.*

*Дрот на слупе правіс,*
*Як пытальнік над скрутам.*
*На разлегласць правы*
*Ад яго непачуты.*

*Недзе вецер курэў*
*Над брылямі пагоркаў.*
*Несла вестку ў кар'ер:*
*Вестак хопіць па горла.*

*У павучым ярме*
*Адзічэла ажына.*
*Дотык дзіду кране —*
*Пырсне дзіда спружынай.*

*З бронзы выліты бор —*
*Непадлеглы заганам.*
*Не ўзнясецца тапор*
*Боскім духам з кургана.*

*Сотню год адлічы.*
*Зрок спыні на зарубках.*
*Жар ікон і лучын*
*Схопіць прагна за рукі.*

*Шыбу туліць шчака.*
*Ціш — як студня пустая.*
*Нехта ж пэўны шукаць*
*Зніклы голас паўстання.*

*Свет у тайне заграз,*
*Дротам ржавым замкнёны,*
*Пробы гэткай якраз,*
*Што вышэй памянёны.*

### Дзень архітэктара

*Як і чакалі,*
*прабіла, нарэшце, улюбёная,*
*пара справаздач.*
*Самы ўрвісты прадставіў*
*праект*
*міжнароднага модуля.*
*Калектыў аднадумцаў*
*настойліва прабіваў*
*бетонныя контуры рэзервацыі.*
*А на апошнім пюпітры*
*выразна прасочваўся*
*новы варыянт Вавілона.*
*Але аніхто яшчэ*
*не дапетрыў,*
*як аб'ёмы хрушчоўкі*
*перакінуць*
*на бліжэйшы завулак*
*Месяца.*

### Заўвага

*Даўно карцела зрабіць*
*табе, браце,*
*заўвагу.*
*А менавіта, чаму ты*
*не спяшаешся крыкнуць "ура"*
*Акрамя таго,*
*.не цураешся*
*не грэбуеш*
*не паважаеш*
*не верыш у*
*(Пералік, зразумела, няпоўны.)*
*Дый ці гэтага мала, каб*
*бачыць перад сабою*
*нацдэма?*
*Але што тут казаць,*
*калі васпан*
*ужо і так паспеў давесці*
*сябе*
*да пячорнага стану.*

### Архарайцы

*Нібы густое малодзіва,*
*з нафтабазы*
*выдойвалі цымус.*
*Не раўнуючы, як ліпку,*
*абадралі*
*да апошняга шпалера*
*дзіцячы комплекс.*
*За адсутнасцю больш*
*дастойнага*
*апаскудзілі могілкі.*
*А як схаваць крадзенае*
*ў цемры пекла,*
*нават*
*пры калектыўным падрадзе*
*ніхто не паруліўся.*

### Сведкі

*Сведкамі твайго хрышчэння,*
*акрамя бацюшкі,*
*прычыніліся анёлы-ахоўнікі,*
*бацькі хросныя,*
*вешчуны з абразоў,*
*галкі —*
*ганцы ва ўсе канцы,*
*дуб-маўчун ля плябані*
*і гэтак далей*
*у алфавітным парадку.*
*Але ж цікава даведацца,*
*куды паступова*
*зніклі*
*воблакі над званіцай,*
*вокны замглёныя,*
*вербы абапал дарогі.*
*Напэўна, спалохаліся,*
*што трэба сведчыць*
*супраць*
*раба Божага імярэк*
*на апошнім Судзе.*

### Раніца

*Зноўку даў маху руплівец,*
*атрасаючы долу*
*абноскі сну.*
*За парогам дома*
*звыкла яго чакалі*
*зашмальцаваныя ходнікі,*
*ападкі*
*ў выглядзе дажджу і снегу*
*і растапыраны*
*ва ўсе канцы*
*святлафор.*
*Нават жонка, бедная,*
*не здагадалася,*
*што муж пасунуўся*
*канючыць ліцэнзію*
*на вяртанне страт.*

### Пратакол

*Прысутнічалі:*
*аўтар засмечанага рамана,*
*аб'ездчык былой аповесці,*
*паломнік трухлявай тэрцыны*
*і іншыя ваяры за бяздомнасць.*
*Абмеркавалі і аблізалі:*
*загадчыцу літучастка,*
*пастаноўшчыцу поз,*
*масажыстку боегаловак*
*і етс.*
*Пастанавілі:*
*адзін — на ўсіх,*
*усе — на аднаго!*

### Канцэрт

*Нанач паслалі*
*пры адчыненым акне*
*на веранду.*
*І ўсю ночку святую*
*за ім несціхана*
*свісталі*
*і*
*шчабяталі,*
*пілікалі*
*і*
*люцелі,*
*шапталі*
*і*
*захліпаліся*
*невідомыя арфы Сусвету.*
*І нават Усявышні*
*Не падазрае,*
*што быць дырыжорам*
*для іх — немагчыма.*

# АПРАМЕТНАЯ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

апошні іхні сын Васіль, апошняя іхняя надзея, тая пупавіна, якая яшчэ трымала іх на гэтым свеце. Васіль пачаў піць. Спачатку зрэдзь, потым усё часцей і часцей. І не толькі з сябрамі-трактарыстамі, а ўжо і дома, цішком, крадучы ў бацькоў самагонку. Мала-памалу дапіўся, што пагналі з трактара — боўтаўся на палявых работах. Нешта і там выштукоўваў "загнаць" і прапіць. Разрывалася матчына сэрца, гледзячы на ўсё гэта, а паратунку не было.

Папіваў і Героім, але не было ўжо таго спрыту ні ў п'янцы, ні ў пагулянцы. Ды і ў працы таксама. Стаў западаць здароўем, сохнуць, марнець. Па першым часе Апраметная нават жартавала: "Ну што, Героім ты мой?.. Вось ты ўжо і ня зух — ня можаш А я ўсё магу і магу" Пасля стала не да жартаў. Калі ўрэшце дайшла справа да дактароў, пачула Апраметная суровы і страшны прысуд — рак, аперацыю рабіць позна. Справа двух-трох месяцаў...

Цэлае лета згасаў Гарасім у сваёй хаце, на драўляным ложку, які некалі зрабіў сваімі рукамі і які стаў для былога франтавіка апошняй цытадэллю...

—Не паверыце, дзеткі мае залатыя, бывала, устану сярод ночы, укленчу перад абразамі ды як заплачу горкімі слёзкамі, як загалашу: "Госпадзе! Чым я правінілася перад табой ці перад людзьмі, што ты караеш мяне страшнай карай? Ці ж я дзетак сваіх не любіла, ці ж я Гарасімку свайго не шанавала, што ты ўсіх іх прымаеш ад мяне без пары? Ці ж у тым мой грэх, мая правіна, што нарадзілася на гэты свет і хацела жыць па-людску? Не Апраметная я — раба твая Антаніна. Злітуйся, міласэрны! Забяры мяне з гэтага пекла...

Гарасім паміраў доўга і пакутна. Быў прытомны да апошняй хвіліны. Калі адпускаў боль — прасіў: "Сядзь каля мяне, Антосечка! Не плач. Не варт я слёз тваіх. Не шанаваў. Адно помні і па маёй смерці: любая ты мне была. На вайне думаў: выжыву, вярнуся — на руках цябе насіць буду Ажно, бачыш, увесь век рукі работай былі занятыя...

Апошні Гарасімаў дзень на гэтым свеце быў горкі і страшны, як і ўсё ягонае жыццё...

Недзе пад абед пачалі на сваіх прысядзібных сотках капаць бульбу, балазе, Васіль за бутэльку самагонкі выпрасіў каня ў загадчыка фермы. Апраметная замовіла некалькі жанок у памач, і толькі разагналі пару баразён, як ліхая проста пад хату прынесла на "казле" дырэктара. І наваліўся: "Дзе бралі каня? Хто дазволіў? Я што казаў — пакуль не выкапаем апошнюю саўгасную бульбіну, нікому каня не даваць і нямедля — каня на ферму!.."

Бяда, калі з хама — пан. Раскрычаўся так, што пачуў гэта Гарасім у хаце. Дацягнуўся з астатніх сіл да акна, адкрыў і кволым, нядужым голасам да "пана дырэктара": "Мікалаевіч... Злітуйся... Я ж ваяваў. Дазвольце. Яна ж, лічэце, удава, бо не жылец я..."

Ах, якая салодкая, якая смачная рэч — улада! Пры ўладзе ты ўжо як бы не проста чалавек, а валадар жыццяў і лёсаў другіх людзей. У дадзенай абмежаванай прасторы — не раўнуючы, Гасподзь Бог. Адзінаверны, адзінамудры, адзінабязгрэшны, адзінасправядлівы і што самае галоўнае, — непадсудны...

—Ну, вось што, Героім, ці як там цябе. Хто ваяваў — той даўно косці парыць, а ты ўсё яшчэ копціш свет. Я сказаў — каня на ферму!

Вечарам таго ж дня Гарасім сканаў. Паклікаў да сябе Антосю, папрасіў, каб дала руку, пацягнуўся да яе нібы пацалаваць, адкінуўся раптам на падушку і сканаў. Толькі скупая слязіна выкацілася і застыла на схуднелай, запалай шчацэ...

А яшчэ пазней, прыцемкамі, апранулася Апраметная ў Гарасімаў суконны паўпальтак з вялікімі глыбокімі кішэнямі, чамусьці бітком напхала ў іх камянёў, featured рознага друзу і зайшла з галавою ў невялікую, але глыбокую сажалку на ўскрайку вёскі...

Ашапулены самагонкаю, Васіль доўга ў гэты вечар сноўдаўся па двары, не разумеючы, дзе дзелася матка, і вымяркоўваючы п'янымі мазгамі, з чаго пачынаць пахавальныя клопаты...

Нейкі час было работы бабскім языкам, а потым, як заўсёды, усё ўляглося і пайшло жыццё далей усталяваным не намі беспрасветным парадкам. Дырэктар так і не "падняў" саўгас, але ўсё ж пайшоў у раён на павышэнне. Відаць, была рука...

Васіль нейкі час жыў бабылём, пакуль не спіўся канчаткова і пакуль не знайшлі яго аднойчы струпянелым у пустой, закарэлай гразёю хаце...

Леанід ЛЫЧ

# На сконе беларусізацыі

## "НАЦДЭМАКРАТЫЗМ" І ЯГО ЎПЛЫЎ НА СТАСУНКІ БЕЛАРУСКАЙ І ЯЎРЭЙСКАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

Магутны размах беларусізацыі ў 20-я гады не адпавядаў інтарэсам савецкай таталітарнай сістэмы, якая вельмі рана пачала складваць і набіраць сілу. У дзеяннях актывістаў беларусізацыі ідэолагі гэтай сістэмы ўбачылі нібыта небяспечныя для яе праявы беларускага нацыянал-дэмакратызму, імкненне да сепаратызму з мэтай адрыву БССР ад вялікай краіны Саветаў. Ад гэтага часу ўжо далёка не ўсепартыйныя і дзяржаўныя дзеячы рэспублікі і аддаcouя ім прадстаўнікі інтэлігенцыі глядзелі на беларусізацыю, як на фактар нацыянальна-культурнага адраджэння беларускага народа, эфектыўны сродак ладавання вольнага, раўнапраўнага жыцця ўсіх нацменшасцяў, у тым ліку і яўрэйскай. Канец 20-х гадоў, не па віне прадстаўнікоў беларускай і яўрэйскай інтэлігенцыі, стаў пачаткам зараджэння негатыўных адносін паміж некаторымі з іх. Гэты вельмі небяспечны, як выявіцца пазней, канфлікт умела распальвалі ідэалагічныя службы партыі бальшавікоў, якая паказала сябе няздольнай ці проста не пажадала вырашаць складанае, супярэчлівае ва ўмовах СССР нацыянальнае пытанне цывілізаваным шляхам.

Створаны нездаровай фантазіяй ідэалагічнага апарату КП(б)Б міф аб наяўнасці ў рэспубліцы "адзінага антысавецкага беларуска-яўрэйскага фронту" развязала рукі работнікам крайне рэпрэсіўнага Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (АДПУ) для барацьбы супраць надуманых нацыяналістаў і шавіністаў любой этнічнай супольнасці. У іх ранг вельмі лёгка было трапіць кожнаму, хто хоць трохі праяўляў актыўнасць у справе нацыянальна-культурнага Адраджэння незалежна ад таго, датычыла справа беларусаў, яўрэяў ці палякаў. У такіх умовах зусім бяспечным, спакойным магло ўяўляцца жыццё толькі тых, хто рашуча адмаўляў і сваё і чужое, становячыся на пазіцыі пралетарскага інтэрнацыяналізму ў бальшавіцкім разуменні слова. Трэба сказаць, што і сярод яўрэйскай інтэлігенцыі вельмі рана з'явіліся такія асобы. Яны арганічна не прымалі беларусізацыю і амаль зусім не лічыліся з інтарэсамі ўласнага народа. Карцела быць суперінтэрнацыяналістамі, а ва ўмовах СССР гэта азначала быць рускімі больш за самых рускіх. Бачачы, на якое цкаванне падпадаюць апантаныя духам беларусізацыі самыя перадавыя і таленавітыя грамадскія і культурныя дзеячы карэннай інтэлігенцыі, іх калегі з ліку яўрэяў не сталі рызыкаваць уласным жыццём. У сваёй творчай дзейнасці многія з іх усё больш і больш адыходзілі ад беларускай нацыянальнай культуры, што далёка не заўсёды вяло да вяртання ў яўрэйскую культуру. Працаваць на карысць псеўдарускай культуры і пайшлі цяпер шмат хто з тых прадстаўнікоў творчай яўрэйскай інтэлігенцыі, што адарваліся ад сваёй духоўнай спадчыны і як след не інтэграваліся ў беларускую нацыянальную культуру. Але не ўсім такая метамарфоза забяспечвала спакойнае жыццё.

Як толькі бальшавікі распачалі барацьбу з беларускім "нацдэмакратызмам", у іх прамовах і артыкулах усё часцей пачало ўсплываць на паверхню і пытанне аб яўрэйскім і польскім шавінізме. Вось як скрыжоўваў гэтыя штучныя з'явы Наркам асветы Антон Платун у час свайго выступлення ў 1929 г. у Мінску на сходзе камсамольскага актыву: "...у звязку з абвастрэннем класавага змагання і беларускі, і яўрэйскі, і польскі нацдэмакратызм і шавінізм адлюстроўваюць настроі кулака, настроі варожага нам класа, выступаюць супраць лініі партыі, супраць лініі савецкае ўлады. І яны надзвычайна добра паміж сабой ужываюцца. Не сварацца паміж сабою яўрэйскія, польскія і беларускія шавіністы і нацдэмакраты, а наадварот, падтрымліваюць адзін аднаго. Гэта ёсць адзіны фронт, які выступае супраць лініі камуністычнае партыі, супраць лініі савецкае ўлады".

Ухіленне — пакуль што скрытнае — партыйных і савецкіх органаў ад цвёрдага курсу на беларусізацыю, распачатая імі барацьба з "нацдэмакратызмам" унеслі сур'ёзны раскол ва ўзаемаадносіны людзей між сабою. Асабліва выразна гэта назіралася ў калектывах, неаднародных у нацыянальных адносінах. А іх было нямала. Гэтая хвароба ахапіла і некаторых настаўнікаў, якім дзяржава, грамадства давервала выхоўваць маладую змену. Якую карысць мог прынесці настаўнік яўрэйскай школы ў Жыткавічах Чудзін, вельмі выразна відаць з наступных яго слоў: "Все школы, как национальное (сюды ён адносіў і яўрэйскія. — **Л. Л.**), так и белорусские мы должны постепенно русифицировать". Як бачым, Чудзіна вельмі напалохалі тыя немалыя дасягненні, якія мелі беларусы і яўрэі ў адраджэнні і развіцці нацыянальнай адукацыі.

Яшчэ большую небяспеку для беларусізацыі маглі ўяўляць асобы, якія негатыўна ставіліся да яе і займалі высокія пасады ў дзяржаўных і партыйных, гаспадарча-адміністрацыйных органах, спецслужбах. Асабліва ў апошніх беларусаў на працягу ўсяго міжваеннага перыяду было вельмі мала. А вось у яўрэяў усё было наадварот, што ўмела выкарыстаў у сваіх інтарэсах партыйны Цэнтр у Крамлі. Па яго распараджэнні ў наш край накіроўваецца ўраджэнец Глуска Р. Рапапорт, яўрэй па нацыянальнасці, каб заняць пасаду начальніка АДПУ БССР. Яму вельмі хутка ўдалося стварыць моцную каманду па выкараненні беларускіх "нацдэмакратаў". Зразумела, у яе ён пастараўся як мага больш уключыць прадстаўнікоў яўрэйскай супольнасці, што працавалі на адказных пасадах у дзяржпартапараце, навуцы, культуры і асвеце.

У той час, як у большасці саюзных рэспублік ішло больш-менш спакойнае, мірнае стваральнае жыццё, у БССР ужо ў канцы 20-х гадоў пачаўся адлоў "ворагаў савецкай улады". Пры адшуканні галоўнай дзеючай асобы, вакол якой гуртаваліся б асноўныя тэарэтычныя сілы па выкрыцці беларускага "нацдэмакратызму", камуністы беспамылкова зрабілі стаўку на добра вядомага пад той час прафесара Беларускага дзяржаўнага універсітэта, з 1928 г. акадэміка Беларускай акадэміі навук Сямёна Вальфсона — яўрэя па нацыянальнасці, ураджэнца Бабруйска. Усе яго асноўныя кнігі "Плеханов" (Мн., 1924), "Диалектический материализм", 6 выд., ч. 1—3 (Мн., 1926), "Интеллигенция как социально-экономическая категория" (Л., 1926), "Социология брака и семьи" (Мн., 1928), "Сучасная рэлігійнасць" (Мн., 1930) вытрыманы ў духу марксісцка-ленінскай тэорыі, і таму іх аўтар карыстаўся поўным даверам у высокіх партыйных органах рэспублікі. Лепшай кандыдатуры партыя і не магла б адшукаць для тэарэтычнага апраўдання сваіх каварных планаў. Вучонага-філосафа такога высокага ўзроўню не было тады ў нас сярод беларусаў, рускіх, палякаў. У згаданым выпадку багатыя веды, вернасць камуністычнай ідэалогіі, як пазней пакажа час, не пайшлі на карысць і самому С. Вальфсону.

Праўда, напачатку ўсё складвалася вельмі паспяхова для філосафа № 1 на Беларусі. Ужо ў 1931 г. выходзіць у свет яго кніга "Ідэалогія і метадалогія нацдэмакратызму", у якой незаслужана палівалісь брудам многія слынныя дзеячы беларускага народа, у крывым люстэрку паказвалася тагачасная рэчаіснасць. Вось толькі адна цытата з кнігі: "У сучасны момант беларускі нацдэмакратызм становіць сабой баявую контррэвалюцыйную антысавецкую ідэалогію, ідэалогію кулака, буржуазнага і дробнабуржуазнага інтэлігента, якія змагаюцца пад прыкрыццём нацыяналістычных лозунгаў за звяржэнне ўлады саветаў і замену яе буржуазнай дэмакратыяй, — дыктатураю эксплуататараў".

Зусім не ў той ролі паказаны С. Вальфсонам беларускі першадрукар і асветнік Ф. Скарына. Кіраўнік жа паўстання 1863—1864 гг. на Беларусі К. Каліноўскі называецца шляхецкім рэвалюцыянерам.

Было б несправядлівым не адзначыць, што ў кнізе С. Вальфсона ёсць і палажэнні на карысць беларусізацыі. Ён, напрыклад, рэзка крытыкуе выкладчыкаў ВНУ, якія не жадаюць пісаць свае працы і чытаць прадметы па-беларуску, называючы іх за гэта вялікадзяржаўнымі шавіністамі. Не абышоў ён увагай і яўрэйскі шавінізм, пішучы, што яго прыхільнікі пад ручку з вялікадзяржаўнымі шавіністамі спрабуюць барацьбой з беларускім нацдэмакратызмам згаНьбіць беларусізацыю.

Перад тым як выдаць гэтую кнігу, С. Вальфсон ужо добра набіў руку на змаганні з беларускім "нацдэмакратызмам" на старонках рэспубліканскага перыядычнага друку. Тыповай публікацыяй такой накіраванасці можа быць яго артыкул "Патрыёты "крыўскай дзяржавы". Тут ён заяўляе, што "ўся творчасць Ластоўскага прасякнута звярынай нянавісцю да Масквы". Называўся Ластоўскі яшчэ і саўдзельнікам бандыцкага бацькі Булак-Балаховіча.

Карэнным чынам змяніў свае былыя станоўчыя адносіны да беларусізацыі гісторык яўрэйскай нацыянальнасці С. Агурскі. Гэта таксама быў навуковец высокай для свайго часу кваліфікацыі. Яшчэ да таго як была разгорнута барацьба з "нацдэмакратамі" і ў першыя гады яе, ён паспеў выдаць такія буйныя працы, як "Яўрэйскі рабочы ў камуністычным руху (1917—1921)" (1926), "Нарысы па гісторыі рэвалюцыйнага руху на Беларусі (1863—1917)", (1928). Выходзілі яго кнігі і на ідыш, у прыватнасці "Яўрэйскія камісарыяты і яўрэйскія камуністычныя секцыя. 1918—1921" (1926), "На гістарычным фронце: супраць ідэалізацыі Бунда" (1930), "Барацьба супраць бунда: ад станаўлення "Іскры" да III з'езда РСДРП" (1932). Таму, відаць, невыпадкова, калі старшыня Цэнтральнага выканаўчага камітэта (ЦВК) БССР Аляксандр Чарвякоў перад тым як аднесці ў друк рукапіс сваёй працы "За савецкую Беларусь" палічыў неабходным даць яго на прагляд С. Агурскаму і С. Гельтману (рэктар і загадчык кафедры эканомікі і палітыкі Камуністычнага універсітэта Беларусі ў Мінску) і ў прадмове да кнігі (выдадзена ў 1927 г.) дзякаваў ім "за правільныя заўвагі, на падставе якіх" былі "зроблены своечасова папраўкі і дадаткі".

Акрамя даволі значнай колькасці навуковых прац, росту папулярнасці С. Агурскага садзейнічала тое, што ён на працягу 1924—1929 гг. быў на высокіх і прэстыжных у тагачасным грамадстве пасадах загадчыка Гістпарта ЦК КП(б)Б, намесніка дырэктара Інстытута гісторыі партыі пра ЦК КП(б)Б. Бальшавіцкая партыя, ствараючы ідэалагічнае ядро для выкрыцця і барацьбы з беларускімі "нацдэмакратамі", проста не магла не выкарыстаць у гэтых мэтах багатыя навуковы патэнцыял С. Агурскага. Пад знішчальны агонь яго вострай, але зусім неабгрунтаванай крытыкі трапіў і шэраг твораў выдатнага беларускага гісторыка, першага прэзідэнта Беларускай акадэміі навук У. Ігнатоўскага. Напады на гістарычныя погляды апошняга не спыніліся і пасля таго, як ён, не вытрымаўшы несправядлівых дакораў і здзекаў з боку партыйных і рэпрэсіўных органаў, скончыў у лютым 1931 г. жыццё самагубствам.

На барацьбе з беларускім "нацдэмакратызмам" збіраўся зрабіць сабе кар'еру малады этнограф, фалькларыст і гісторык Майсей Грынблат (1905—1983), які разам са сваімі беларускімі калегамі Л. Бабровічам, А. Ляўданскім, І. Шпілеўскім выдаў у 1931 г. трэцюю частку кнігі "Навука на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі", якая мела назву "Этнаграфія. Музейная справа". У канцы яе аўтары сцвярджалі, што агульныя ўстаноўкі "беларускага нацдэмакратызму" скіраваны "на зрыў будаўніцтва сацыялізму, барацьбу з дыктатурай пралетарыяту і рэстаўрацыю капіталізму". Усіх, каго абвінавачвалі ў такіх поглядах, чакала суровая кара.

Вельмі рана актывізаваўся на барацьбу з беларускімі "нацдэмакратамі" літаратуразнавец яўрэйскага паходжання Восіп Канакоцін. Ён выступіў у 1930 годзе з вельмі падрабязным дакладам, які затым друкаваўся ў часопісах "Бальшавік Беларусі" і "Маладняк". Даклад меў загаловак "Абвастрэнне класавай барацьбы ў беларускай літаратуры ў перыяд сацыялістычнай рэканструкцыі". Аўтар з усёй катэгарычнасцю сцвярджаў, што "нацдэмакратызм" трывала ўмацаваўся не толькі ў апараце Наркамасветы, Беларускай акадэміі навук, але і ў мастацкай літаратуры. Вынікае гэта з яго наступных слоў: "На літаратурным фронце контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм выступаў праз сваіх агентаў, якіх ён завербаваў з меней устойлівых у класавых адносінах прадстаўнікоў беларускай культуры, ці проста пасылаў сваіх агентаў у шэрагі беларускіх літаратурных аб'яднанняў... Беларускі нацыянал-дэмакратызм і на літаратурным фронце паспеў за гэтыя гады нямала прынесці нам шкоды". О. Канакоцін радуе, што ў беларускай літаратуры адбываецца сацыяльна-класавая барацьба, што "самі літаратурныя арганізацыі ўскрываюць нацыянал-дэмакратычныя тэндэнцыі, ачышчаючы свае шэрагі ад нацыянал-дэмакратычных агентаў".

Самымі небяспечнымі разважанні О. Канакоціна становяцца тады, калі ён ад агульных слоў пераходзіць да абвінавачвання канкрэтных асоб у "нацдэмакратызме". Найбольш актыўнымі прыхільнікамі апошняга ён лічыць беларускіх пісьменнікаў У. Дубоўку, Я. Пушчу, М. Зарэцкага, Андрэя Мрыя, М. Грамыку, М. Гарэцкага і Янку Купалу. Прааналізаваўшы два творы У. Дубоўкі "І пурпуровых ветразяў узвівы" і "Камбайн", літаратурны крытык партыйнага гарту прызнае іх па-мастацку напісанымі, але... аўтар "з'яўляецца спеваком класавага ворага". М. Зарэцкага Канакоцін называе спеваком "нацыянал-дэмакратызму", а яго апошні твор "Крывічы", зняты па ўказцы адпаведных органаў з друку — "вышэйшым дасягненнем нацыянал-дэмакратызму ў літаратуры". Падставай для аднясення ў лагер "нацдэмаўцаў" паэтаў Алеся Дудара і Язэпа Пушчы паслужыла для О. Канакоціна іх рэзкае асуджэнне той палітыкі, якую вяла Масква ў час падпісання ў сакавіку 1921 года ў Рызе мірнага дагавора з Польшчай, паводле якога апошняй адышла значная частка тэрыторыі Беларусі.

Тая яўрэйская інтэлігенцыя, што брала актыўны ўдзел у выкрыцці беларускага "нацдэмакратызму", прычыніла немалую шкоду беларускаму нацыянальна-культурнаму Адраджэнню, але нічога добрага не зрабіла і для яўрэйскай справы. Страты, акрамя тытульнага ў рэспубліцы народа — беларускага, не маглі не несці і яе нацыянальныя меншасці. Так партыі лягчэй было распраўляцца з "ворагамі савецкай улады" незалежна ад іх нацыянальнасці, фармаваць у вярхах адпаведную палітыку па гэтым пытанні. Сказанае добра пацвярджаюць выказванні з даклада першага сакратара ЦК КП(б)Б М. Гікалы на XV з'ездзе, які праходзіў у студзені 1934 г.: "Імення засмечанасць раду звенняў КП(б)Б класава-чуждымі элементамі, неразбіроўшыміся выхадцамі з дробнабуржуазных партый (Бунд, Паалей-Цыён, Беларуская грамада) перашкаджала згуртаванню радоў КП(б)Б". І далей: "Мы ў ходзе чысткі партыі выкрылі астаткі бундаўскіх тэорый, ідэалізацыю Бунда, разграмілі нацыяналістычныя элементы і ахвосце раней існаваўшых дробных контррэвалюцыйных партый і ў Беларусі (Бунд, Паалей-Цыён, эсэры і інш.). У нас да апошняга часу мела месца ідэалізацыя Бунда, якая знайшла сваё адлюстраванне ў работах раду камуністаў (Чарняўскі, Паташ, Ашэраў і інш.)" (стыль захаваны. — **Л. Л.**)

На вялікую бяду, у партыі бальшавікоў ніколі не было нястачы ў памагатых, у т. л. і сярод інтэлігенцыі. Часта, каб дагадзіць партыі ў правядзенні якой-небудзь подлай акцыі, у адной запрэжцы дзейнічалі прадстаўнікі самых розных нацыянальнасцяў. На пэўным этапе пабудовы "новага, сацыялістычнага грамадства" бальшавікі і сапраўды дамагліся таго, што для некаторай часткі верных ім людзей класавыя, партыйныя інтарэсы былі даражэй за нацыянальныя. У гэтым выдатна пераканалі пісьменнікі Віталь Вольскі і Алесь (Айзік Евелевіч) Кучар. Іх антыбеларуская настроі найбольш выразна прасочваюцца ў артыкуле "Беларуская савецкая літаратура за XX год" ("Полымя рэвалюцыі", 1937, № 11). Аўтары не абмяжаваліся толькі савецкім перыядам, а зазірнулі і трошкі глыбей, каб надзейна адшукаць там вытокі "беларускага нацыяналізму". І "знайшлі" іх найперш у творах Францішка Багушэвіча і Цёткі: "Захапленне нацыяналістычнымі ідэямі з боку Багушэвіча, а таксама ўплыў на Цётку буржуазна-нацыяналістычнай Беларускай Сацыялістычнай грамады, членам якой яна была, не далі магчымасці гэтым пісьменнікам стаць на паслядоўна-дэмакратычны шлях у сваёй творчасці". У 1937 годзе гэтая "думка" магла многіх збіць з панталыку, прымусіць паверыць, што Ф. Багушэвіч і Цётка сапраўды з'яўляліся праціўнікамі дэмакратыі. Паводле меркаванняў В. Вольскага і А. Кучара газета "Наша Ніва" "адлюстроўвала інтарэсы беларускага купецтва і буржуазіі", не ў тым накірунку паўплывала на Янку Купалу, Якуба Коласа, Змітрака Бядулю, якія "пасля часта ў далейшым здавалі свае рэвалюцыйна-дэмакратычныя пазіцыі і становіліся на пункт гледжання нацыяналістаў. А к 1917 году нацыяналісты так абхлталі гэтых пісьменнікаў, што яны ў дні рашаючых баёў беларускага народа за сваю свабоду пайшлі не з народам, а з нацыяналістамі". Не зразумеўшы значэння Кастрычніцкай рэвалюцыі, Купала, Колас і Бядуля "асталіся абыякавымі да гераічных намаганняў беларускага народа адстаяць сваю незалежнасць..." З лёгкай рукі В. Вольскага і А. Кучара многія крытыкі доўгія гады пасля гэтага давалі менавіта такую характарыстыку дарэвалюцыйнай літаратурнай дзейнасці Купалы, Коласа і Бядулі.

*(Працяг на стар. 15)*

## Займальна — і глыбока!



**Ажыятаж вакол кнігі "Вясёлае сальфеджыо" ўзнік яшчэ тады, калі яна толькі рыхтавалася да друку. Пасля выдання кніга імгненна зрабілася дэфіцытным таварам. І заказаў ад музычных школ на яе столькі, што выдавецтва "Чатыры чвэрці" збіраецца паўтарыць тыраж. Згадзіцеся, такое бывае нячаста!**

**Кніга выкладчыцы 1-й Мінскай дзіцячай музычнай школы Маі Чарвонай "Вясёлае сальфеджыо" і сапраўды атрымалася унікальная, яна зроблена з вялікай любоўю да дзяцей і да прадмета, які М. Чарвоная выкладае ўжо трэцяе дзесяцігоддзе. А прадмет гэты, між тым, ці не самы складаны. Бо сальфеджыо ж — не што іншае, як музычная грамата. Для дзіцяці яго вывучэнне вельмі часта ператвараецца ў цяжкія пакуты, і многія менавіта з гэтай прычыны кідаюць заняткі музыкай. Так, у прадмеце сальфеджыо і сапраўды няма нічога вясёлага, — суцэльная "голая" тэорыя: што такое гук, рытм, памер, як называюцца інтэрвалы, лады, акорды, жанры. Гэткая "вышэйшая матэматыка"! А вось паводле М. Чарвонай, сальфеджыо — гэта**

*Удивительный предмет!*
*Учит слышать, чисто петь,*
*И играть, и сочинять,*
*И по слуху подбирать.*

**І менавіта так — у простых вершах, з вялікай выдумкай і добрай усмешкай спрактыкаванага мудрага настаўніка напісана ўся кніжка. І вывучэнне "нудотнага" сальфеджыо ператвараецца ў цікавы творчы працэс. Так-так, творчы, бо на ўроках М. Чарвонай дзеці не толькі спасцігаюць, як належыць, тэорыю музыкі, але й ствараюць, спяваюць.**

**Дарэчы, у кніжцы змешчана некалькі ўласных песень М. Чарвонай, якія яна прапануе дзецям для замацавання матэрыялу, — напрыклад, "Песенька-распеўка", "Песенька пра інтэрвалы", "Песенька пра мажор і мінор", "Песенька пра галоўныя ступені лада", нарэшце, "Гімн сальфеджыо". Дзеці спяваюць іх з вялікім задавальненнем і вельмі лёгка засвойваюць вучэбныя тэмы. Адным словам, для вучняў М. Чарвонай урокі сальфеджыо — гэта сапраўдны чароўны свет. Там заўсёды цікава, і дзеці ідуць на сустрэчу з настаўнікам як на свята, а не як на катаргу. Трэба спадзявацца, кніга прынясе вялікую карысць шматлікім калегам настаўніцы, якія таксама выкладаюць тэарэтычныя дысцыпліны ў музычных школах нашай краіны. Вялікую цікавасць да "Вясёлага сальфеджыо" выказваюць і бацькі юных музыкантаў — яны з задавальненнем набываюць кнігу для сваіх дзяцей.**

**Апроч цікавага вершаванага зместу, яна мае незвычайную форму. Гэта — кніжка-размалёўка, якую насяляюць чароўныя гномікі (мастак — А. Аўчыннікаў). Аўтарка заклікае дзяцей зрабіць чорна-белыя малюнкі рознакаляровымі.**

**Кніжка зайграе колерамі — і не будзе дзвюх аднолькавых, бо юныя мастакі з захапленнем размалююць іх (і ўжо размалявалі!) кожны на свой густ. Ці ж гэта не цуд, што складаную навуку дзеці спасцігаюць у займальнай форме? І ці трэба задаваць пытанні, якога жанру кніжка: падручнік ці метадычны дапаможнік і чаму няма ў яе адпаведнага грыфа, неабходнага для выдання літаратуры падобнага кшталту? Адказы на гэтыя пытанні турбуюць, бадай, толькі некаторых заўзятых прыхільнікаў традыцыйнай методыкі выкладання. Але замест адказаў — поспехі вучняў М. Чарвонай, якія пасля заканчэння музычнай школы "без промаху", як кажуць, трапляюць у музычныя вучылішчы. Яе рэйтынг як выкладчыка ў Мінску вельмі высокі. Прычым, захоўваючы глыбіню ведаў, М. Чарвоная валодае шчаслівым дарам выкладаць лёгка, захапляюча, цікава. Такая ж і яе кніжка.**

**Не было б "Вясёлага сальфеджыо", калі б не выдавецтва "Чатыры чвэрці". Яго дырэктар Ліліяна Анцух нейкай неверагоднай інтуіцыяй — і прафесійнай, і жаночай! — умее распазнаць матэрыял, загадзя прадбачыць спажыўца-чытача той ці іншай кніжкі, адчуць яе, так бы мовіць, "на смак". Колькім аўтарам Л. Анцух выказала давер і дала зялёную вуліцу! Ніводная кніжка выдавецтва "Чатыры чвэрці" не сталася шараговай. Вось і "Вясёлае сальфеджыо"...**

**...А ўсё ж шкада, што няма, напрыклад, "Вясёлай фізікі", "Вясёлай алгебры" ці "Вясёлай хіміі". Глядзіш, і паменела б кончаных двоечнікаў ці нясконченых гультаёў...**

**Вольга БРЫЛОН, музыказнаўца**

# Ластаўкі з лясной хаткі

***Адна з самых любімых маіх кніг — гэта "Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік" Зоські Верас, выдадзены ў Вільні ў далёкім 1924 г. "Чалавеку цікаўнаму, знаёмаму з назовамі расьлінаў у яго роднай мове, і то з назовамі не штучнымі, выдуманымі, а з чыста народнымі, — кажа аўтарка ў прадмове, — кожная расьлінка, кожнае зелейка раскажа не толькі дэталі свайго ўласнага жыцьця, гісторыю свайго роду, але ж таксама напомніць аб той ролі, якую яно іграе ў жыцьці нашых сялян, у іх медыцыне, чарах і варожбах. Часта адно характэрнае названьне раскрые перад нашымі вачыма ўсю паэтычнасьць і багатую фантазію нашага народу..."***

***І сапраўды, што ні назва — то залацінка, ад якой адразу хочацца ўсміхнуцца, нават у змрочны непагодлівы дзень: богава крэселка, валовы язык, воўчая ступа, жабіны вочкі, залётнік, зязюліны панчошкі, мацаўнік... Гэты дзівосны пералік можна доўжыць і доўжыць.***

***На маім ксеракапічным адбітку слоўніка напісана: "Паважанаму і дарагому Валодзю Ягоўдзіку на добрую памятку даўгога знаёмства. З. Верас. 26/IX.1987. Вільня". А пазнаёміўся я з Людвікай Антонаўнай восенню 1975 г., калі вясёлай студэнцкай грамадкай мы наведалі яе ў лясным доміку, каб пачуць успаміны пра Максіма Багдановіча. Пасля былі новыя сустрэчы і ліставанне на працягу чатырнаццаці гадоў. За гэты час я атрымаў ад Людвікі Антонаўны больш за 70 пісьмаў і паштовак. Яны былі і ёсць маім духоўным апірышчам у жыцці і на творчай сцяжыне, добрай мудраю засцярогаю ад усякіх спакуслівых вывертаў, асабліва ў цяперашнія дні. Найперш — перад самім сабою. Я спадзяюся неўзабаве апублікаваць гэтыя ластаўкі з лясной хаткі цалкам, без усякіх вынятак, бо ўпэўнены — яны знайдуць свайго ўдзячнага чытача. А пакуль, абмежаваны памерамі лімаўскіх старонак, прапаную вашай увазе толькі невялікія фрагменты, захоўваючы ў асноўным правапіс іх аўтаркі. І апошняе: якраз сёлета ў кастрычніку спаўняюцца дзесятыя ўгодкі, як Зоська Верас памерла.***

**Уладзімір ЯГОЎДЗІК**



*У гасцях у Зоські Верас, 1981 г.*

1/XI. 75. Вільня.

Дарагі Валодзя.

Думаю, што не загневаецеся за такую фамільярнасьць. Але бо сапраўды, Вы маглі б быць маім унукам і я адношуся да Вас, як да некага блізкага, так мяне цешыць Ваша жаданьне грамадскай дзейнасьці. У чым толькі змагу, ахвотна памагу...

Хацела б да Новага Году скончыць пісаць свае ўспаміны — Віленскія гады, г. зн. ад 1923 году і да вайны. А яшчэ маю запланаваную такую работу: у апошнія гады памёрла шмат беларускіх дзеячоў, аб якіх ніхто ні словам нідзе не ўспомніў. Я сабрала аб Іх біяграфічныя дадзеныя (пераважна з Іх жа лістоў да мяне) і фатаграфіі. Хачу гэта ўсё ўпісаць у адмысловы сшытак. Няхай жа хоць так памяць аб гэтых людзях захаваецца. А мо ў будучыні каму-небудзь такі матэр'ял спатрэбіцца. Тым больш цяпер, калі я зразумела, што нават аб такім заслужаным бібліёграфем, як Юлія Язэпаўна Бібіло, моладзь нічога не ведае, — лічу сваю задуму вартай выпаўненьня.

Нашу сустрэчу ўспамінаю з прыемнасьцю і рада буду зноў з моладзьдзю спаткацца. Але я вельмі хацела б, каб Вы раней прыехалі адзін. Хачу пазнаёміць Вас з такімі матэр'ямі, якія Вам асабліва варта ведаць. Варта арыентавацца ў цэласнасьці беларускага руху ў Зах. Беларусі па сапраўдных фактах. Я маю перапісаную "Хроніку" ў час. "Шлях Моладзі" амаль за 10 гадоў. Вы маглі б сабе спакойна перапісаць тое, што найбольш бы зацікавіла. Гэта дало б Вам магчымасць ясна бачыць розніцу паміж тым, што "было" і тым, што бачаць (і пішуць) у фальшывым святле. Там ёсць таксама крыху і аб Г. Леўчыку. Як думаеце? Ці згаджаецеся са мной? Пішыце. І ў ніякім выпадку не бойцеся "дакучаць" лістамі.

3/XI.

Напісала ліст 1-га ўвечары, але ўчора выслаць не ўдалося. Учора ў нас быў дзень памёршых — "Задушкі". Я езьдзіла з Унукам на магілы сваіх родных, а таксама на могільнік "Россы" на беларускія магілы. Завязьлі кветкі, сьвечкі. Асабліва на магілу Ядвігіна Ш.

Прачытала раней напісаны ліст і задумалася, ці высылаць яго з такім загалоўкам? Мо зарана на такую фамільярнасьць. Але ўжо няхай так будзе — па-Багдановічаўску. Ён жа лічыў, што мы, беларусы, звязаныя ідэяй, не павінны быць "чужымі".

❑

12/Y. 76 г. Вільня.

Выбачце, што так доўга не адказывала. Нешта чуюся нядобра, часам нават вельмі нядобра... Усё чакаеш "лепшай" хвілінкі і так час праходзіць. Разумецца — прыязджайце. Буду рада.

Што да магнітафону, то Слаўка кажа, што Яго магнітафон працуе добра. Мае дзьве хуткасьці: 9 і 2. 2 — гэта на запісваньне голасу. Ці да Вашага магнітафону гэта падыйдзе?

Гэты тыдзень будзе ў мяне "заняты", бо Дачка выпісывае лекара. Хоча, каб мяне падлячылі. Што ж — не пратэстую... Але ці гэта паможа? Моцна падарвала маё здароўе сьмерць с.п. Сына. Не магу з гэтым звыкнуцца, пагадзіцца...

Цікава, як прайшоў з'езд у Вязынцы?(-размова ідзе пра злёт студэнтаў філфака БДУ. — **У. Я.**). Гэта ж аграмадная імпрэза. Шчырае дзякуй за добрыя пажаданьні Вам асабіста і ўсім Вашым калегам, якія аба мне помняць.

❑

12./YIII. 77.

Спаўняю Вашую просьбу — пасылаю адказ на анкету. Не вельмі добра напісала, але самапачуцьцё благое, цяжка думаць.

1/.Улюбёны пісьменьнік — Янка Брыль. Люблю асабліва яго лірычныя запісы. Гэты жанр пазбаўлены штучнай апрацоўкі — шліфаваньня. Думкі плывуць проста з сэрца.

2/. Самы памятны дзень? Цяжка сказаць... Мо дзень выхаду "Батанічнага Слоўніка"? Мо 1-га нумару "Заранкі" або "Беларускай Борці"?

2/. Што можна дадаць да слоў Фр. Багушэвіча: "Не пакідайце мовы роднай, каб не ўмерлі..." Ці не да гэткага канца даходзім? Скажуць: столькі друкуецца часапісаў, столькі выходзіць кніжак... Аўтары атрымліваюць плату "ад радка", а ў дома, у сям'і, сваёй мовы не ўжываюць. Зразумела, не ўсе... Але шмат, шмат... Было так. У Вільні праходзілі "Беларускія дні". Прыехала дэлегацыя з Менска (прозвішча не падаю...) Яе спаткаў літоўскі пісьменьнік прамовай па-літоўску і **па-беларуску**. Прадстаўнікі **беларускай** дэлегацыі адказалі **па-расейску!** Ці ж не зганьбілі сябе? Горка і сорамна пры адной думцы аб такой падзеі...

Яшчэ. Стары беларускі культурны дзеяч прыехаў у Вільню. Па-беларуску гаварыў, а як жа, але толькі ў памяшканьні пры зачыненых дзвярах! На вуліцы, у аўтобусе, у таксі гаварыў па-расейску. Саромеўся сваёй мовы? Ці гэта не вядзе да сьмерці мовы і народу?

Надзея на моладзь!

Можа моладзь пакажа сябе больш адважнай, больш прынцыповай, ахвяруе ўсе свае сілы на захаваньне Роднай Мовы, культуры, а тым самым Жыцьця Народу.

Л. Войцікава (Зоська Верас).

❑

21/X.78. Вільня.

У гэтым годзе мела я і добрыя хвіліны. Раскажу падрабязна. Помніце, я Вам хіба гаварыла аб "Гродзенскім гуртку беларускай моладзі", які працаваў у Гродне ад 1909 па 1913 г. уключна. І вось у гэты апошні год 1913 — мы выдалі аднаднёўку "Колас беларускай нівы". Вельмі скромны каласок, адбіты на шапірографе ў ліку 50 экземпляраў. У мяне астаўся, як памятка, адзін экземпляр. Вазіла я яго ўсюды з сабой. Аж тут, у Вільні, прапаў. Як я яго шкадавала... Помніла загалоўкі вершаў і артыкулаў, помніла прозвішчы аўтараў. Але што з таго — тэкстаў не было.

Сёлета зімой прыехаў з Менска Іван Уладзіміравіч Саламевіч, каб папрацаваць у Віленскіх архівах. Аднаго дня пасьля работы прыйшоў да мяне і кажа: "Ведаеце, што я ў архівах знайшоў? "Колас беларускай нівы".

Мне проста верыць не хацелася. Аказалася, што "Колас..." вельмі зьнішчаны і перафатаграфаваць нельга. Але І.У. Саламевіч не пашкадаваў часу і працы — перапісаў усё ад рукі... Пасьля ўжо ў Менску перадрукаваў на машынцы. Прыслаў мне машынапіс і пазычыў такі ж С. М. Новіку. А той, як заўсёды, цудоўна аформіў з рысункам каласоў на вокладцы, так як у арыгінале. Так што цяпер разам з маімі ўспамінамі аб "Гродзенскім гуртку" — гісторыя гуртка поўная. Адно жаль, што апрача мяне нікога з рэдакцыйнай групы няма. Ды і наагул з Гуртка, наскольки ведаю, няма нікога.

❑

5/IX.79. Вільня.

Сьпяшаюся Вам адказаць. Ружаны, разумеецца, ведаю. Такія краязнаўчыя фільмы — задума вельмі добрая і хіба пусьціць іх на экран перашкодаў не будзе.

А вось фільм аб нашым Сьпеваку (М. Забэйдзе) рэч рызыкоўная (размова ідзе пра задуманую мною на Брэсцкім тэлебачанні 30-хвілінную перадачу, што выйшла ў эфір у снежні 1980 г. — **У. Я.**). Ці Вам наагул **пазволяць** яго рабіць? Бо што да матэр'ялаў, то клопату не было б ніякага. Матэр'ял ёсьць і здымкі таксама. Магчыма, Сяргей Міхайлавіч Новік не паказываў Вам, а мо вы забыліся, але Ён(С. Міхайлавіч) робіць вялікі альбом аб Сьпеваку — тэкст напісаў с. п. Янка Шутовіч, здымкі прыслаў сам Сьпявак. Іх шмат з розных часоў. Тэкст — гэта біяграфія, лісты, рэцэнзіі, праграмы канцэртаў і г. д. Напісана жыва, сардэчна. Я чытала, бо аўтар прыносіў мне, каб пераглядзець.

У звязку з хваробай Сяргея Міхайлавіча я ўсё баялася, ці зможа Ён працу над альбомам давесьці да канца. Мушу дадаць, што аўтар тэксту — Янка Шутовіч — задумаў надрукаваць гэты матэр'ял у "Маладосьці". Адвёз у Менск. Пасьля пісала мне Вольга Іпатава, што яны там у рэдакцыі "Маладосьці" матэр'ял ужо прапанавалі да друку, але **друкаваць не пазволілі...** (Хіба і цяпер нічога не зьмянілася?) Вось таму мы і пастанавілі зрабіць альбом.

Што да лістоў ад М. І. Забэйды, то я іх маю 18, а на апошні яшчэ Яму не адказала. Маю таксама копіі лістоў, якія Сьпявак пісаў да Сяргея Міхайлавіча. У апошнім лісьце Міхась Іванавіч піша, што цэлы месяц лячыўся ў санаторыі, чуецца слаба, але яшчэ прыймае вучняў на лекцыі сьпеву. А Яму ўжо 79 гадоў! Невядома чаму, але з Менска перасталі пасылаць Яму літаратуру...

❑

17/YI.80. Вільня.

Ужо даўно прачытала Вашую "Стронгу" (апавяданне, надрукаванае ў "ЛіМе". — **У. Я.**)., якая мне вельмі падабалася. І не толькі мне — маёй Дачцы, Слаўцы таксама. Як шкада, што Вы так мала пішаце!. Арыгінальная тэма, добры стыль, добрая мова ўносяць у нашую літаратуру нейкі сьвежы подых. А ён так патрэбны...

Як Вам жывецца? Як гадуецца дачушка? Пісаў мне Сяргей Міхайлавіч, быццам вы яму казалі, што выслалі да мяне ліст? Я нічога ад Вас не атрымала ўжо даўно. Сама я чуюся вельмі дрэнна. Асабліва падарвала мне здароўе сьмерць старога сябра, шчырага чыстай душы беларуса, амаль майго равесьніка, доктара Марцінчыка — гродзенчука. Адыходзяць добрыя людзі і на гэта няма рады.

Вось ужо мінула 14 г. м. 80-годзьдзе нашага Сьпевака Міхася Іванавіча — і нідзе аб гэтым ні гуку. Хоць бы дзе цёплым словам успомнілі, ушанавалі. Казалі, што мастакі ў Менску мелі нешта наладзіць, але не верыцца мне, каб з гэтага што было. У апошнім нумары "ЛіМа" выцягнулі з некульсь нейкага Шапіру — у яго 75-годзьдзе — а свайго заслужанага беларуса абмінулі. І не рада я, што да такіх часоў дажыла. Цяжка ўсё гэта прыймаецца!

❑

19/IY. 81. Вільня.

Доўга я Вам не адказывала і сяньня пішу коратка. Дрэнна чуюся. Мо гэта пераход да вясны і то такой неспрыяючай, халоднай, а можа, проста гады бяруць сваё. Прыймаю

# Паланізмы ў беларускай мове

## ЗОНА АДМІНІСТРАЦЫЙНАГА БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКА-ЛІТОЎСКАГА ПАМЕЖЖА

З дапамогай Польскага Інстытута ў Мінску мною прачытаны даклад "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак" (т. 1-5, 1993—1998) на III Міжнародным Кангрэсе дыялектолагаў і геалінгвістаў (24—29 ліпеня 2000 года) ва Універсітэце імя Марыі Кюры-Складоўскай (Люблін, Польшча). У гэтай унікальнай фундаментальнай працы ёсць таксама матэрыялы, якія сведчаць пра наяўнасць паланізмаў у памежнай паласе, паабапал сучаснай адміністрацыйнай мяжы паміж Беларуссю, Польшчай і Літвой.

Архіўныя матэрыялы Рускага геаграфічнага таварыства сведчаць аб наяўнасці польскай субстытуцыі пасля Люблінскай уніі (1569) на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Польская мова ўжывалася пераважна ў шляхецкім асяроддзі. Пасля падзелу Рэчы Паспалітай (1772, 1792, 1795) польскі культурны ўплыў пачаў замяняцца на рускі, на рускую субстытуцыю (Карта N 1 "Польская мова"). Гэтыя ж архіўныя матэрыялы адлюстроўваюць моўную сітуацыю — кім, дзе і калі ўжываецца беларуская, польская, руская, літоўская, яўрэйская, нямецкая, французская мовы. На Віленшчыне адзначаецца густая сетка (105) населеных пунктаў з беларускім сялянскім насельніцтвам, беларускай мовай і беларускім маўленнем (Карта N 2 "Беларуская мова"). Цікавымі таксама з'яўляюцца пазнейшыя даныя перапісу 1897 года, дзе інтэнсіўны ўплыў польскай мовы на беларускую адзначаецца да лініі Мазавецкі — Беласток — Саколка — Гродна — Кальварыя. Лічылі сваёй роднай моваю беларускую са 100 чалавек 10 на Бельшчыне, на Беласточчыне — 20-29, на Саколкаўшчыне — 80-89, на Аўгустоўшчыне — 30-39, на Кальварыі меней чым 10, на Трокаўшчыне — 10-19, на Віленшчыне — 20-29, на Свянцяншчыне — 40-49 і г. д.

Польскія і беларускія вучоныя ўдзялілі вялікую ўвагу вывучэнню пашырэння польскай мовы на тэрыторыі таксама і Віленшчыны (на пагранічны сучасных Польшчы, Літвы і Беларусі). Даследаванне сведчыць, што былыя польскамоўныя астравы за апошнія 60 гадоў зменшыліся, але польскія гаворкі існуць там да цяперашняга часу.

Без дакладнага вывучэння гістарычнай міграцыі насельніцтва ў рэгіёне Віленшчыны і ў іншых суседніх і несуседніх мясцовасцях славянства, аб наяўнасці там беларускага насельніцтва ў розныя часы, даследчыкі не маюць магчымасці аб'ектыўна тлумачыць беларускія і польскія з'явы, лексемы. Сапраўды бывае цяжка правільна растлумачыць бытаванне аднязначных па значэнні, аднолькавых па форме лексем, якія размешчаны на далёкіх частках, напрыклад, Польшчы і Беларусі. Параўн. геаграфічны апелятыў *бель* (мокры луг, балота, нізкае месца) вядомы на ўсходніх ускраінах Бліжняй Мазовіі, на Дальняй Мазовіі, Мазуры, Падляссі, Сувалшчыне і Кашубіі, а таксама на ўсходнепалескіх дыялектах, паўночна-заходніх беларускіх гаворках, на Гродзеншчыне, нават у Бабруйскім, у мікратапаніміі і тапаніміі Слаўгарадчыны Магілёўскай вобласці на ўсходзе Беларусі.

**"БЕЛАРУСКАЯ МОВА"**

**Мясцовыя сведчанні і афіцыйныя звесткі 50—80-х гадоў XIX ст. у Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Гродзенскай і Ковенскай, Віленскай губернях Расійскай імперыі**



Нумарацыя нас. пп. (прыблізна) па губернях: Мінская — 1 — 35; Віцебская — 1 — 44; Гродзенская — 1 — 52; Магілёўская — 1—66 і Ковенская — 1 — 5; Віленская — 1 — 105

о-о-о межы губерняў (XIX ст.)
. . . . межы паветаў
● Магілёў губернскі горад
● Чэрыкаў павятовы горад

Паласу паланізмаў паказваюць карты "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак" на тым жа пагранічны Віленска-Гродзенскім. Для прыкладу возьмем толькі 5-ы том (1998): *вашавáць* (выконваць цяжкую фізічную работу, цяжка працаваць праз увесь час), *грýца* (каша з ячных круп), *Казюк* (Казімір), *завелькі, цёнгле* (пастаянна), *асóбне, нігды, спýльна, таквéле, тыле* (столькі), *саган* (чыгун), *відэ́лец, ванзэ́лак*.

У беларускіх гаворках адзначаецца шмат паланізмаў нямецкага паходжання, якія запазычаны палякамі ад немцаў. Частка запазычана і непасрэдна ад немцаў на кірмашах, ад немцаў-каланістаў, у часе войнаў і праз яўрэйскае пасрэдніцтва тыпу *цыгун* (чыгун), *апцэнгі* (абцугі), *зайцаяр* (саляная кіслата), *рашпіль* (рашпільны напільнік), *фляцэнгі* (пласкагубцы), *шнайдэза* (разец) і інш.

Асаблівую цікавасць для даследчыкаў польскай субстытуцыі ўяўляе матэрыял, які сведчыць аб запазычанні паланізмаў у больш ранні час на ўсходзе Рэспублікі Беларусь. Адзначаецца, што значэнне іх забылася, захавалася толькі форма. Яны набылі новае значэнне ў межах таго ж паняційнага поля або ўтварылі новае значэнне. Даследчыкі бачаць у гэтым жыццяздольнасць беларускай мовы, якую нельга знішчыць, асіміляваць. Як тут не прыгадаць высnову знанага аўтара Алены Яскевіч, што "...беларуская моўная сістэма валодае выдатнай унутранай жыццяздольнасцю, яна ніколі не падзялялася, як памылкова мяркуюць, уплывам польскай, сербскай або расійскай моў, а, наадварот, заглынала гэты ўплыў, арганічна пераўтварала яго ў сябе".

На Віленшчыне ў праваслаўным асяродку існуе выклічнік "Свента Матка!" ("Свента Матка! Беражы яго Божа!").

Мяркуецца, што на Усходзе Рэспублікі паланізмы старой пары (польская субстытуцыя) падпалі пад уплыў пазнейшай рускай субстытуцыі.

Можа, мы тут маем праяўленне вельмі старой пары. Мо гэта звязана з летапіснымі легендамі, паводле якіх радзімічы прыйшлі на Сож і Іпуць з прапольскіх (ляшскіх) земель з родапачынальнікам Радзімам. Мо таму адна праваслаўная лексема мае розныя значэнні аднаго паняційнага поля ў розных частках рэспублік.

**І. ЯШКІН**



# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

## Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа

**АБВЯШЧАЕ ПРЫЁМ НАВУЧЭНЦАЎ НА 1 КУРС (8 КЛАС)**

У ліцэі на паглыбленым узроўні вывучаюцца літаратура, гісторыя, родная і замежная мовы, іншыя дысцыпліны.

У ліцэй прымаюцца на конкурснай аснове навучэнцы, якія паспяхова скончылі 7 класаў. Інтэрната ліцэй не мае.

Навучанне бясплатнае. Асноўная мова навучання — беларуская.

Выпускнікі ліцэя карыстаюцца льготамі пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі.

Абітурыенты павінны прадставіць у камісію наступныя дакументы: асабістую заяву, медыцынскую даведку, завераны пячаткай табель паспяховасці за 7 клас.

Дакументы прымаюцца па 25 мая (табель паспяховасці — 28 мая) па адрасе: **220050, г. Мінск, вул. Кірава, 21, пакой сакратара. Тэлефоны для даведак: 226-10-73, 227-32-77.**

*Уступныя экзамены —з 28 мая па 5 чэрвеня.*

## ПАРОДЫІ

### Нічыпар ШЭРАНЬКІ

#### *Ранаваты пахоҷ*

Схіляюся вешчым
Алегам
Над чэрапам з мудрай
змяёй.

**Васіль ЗУЁНАК**

***Я на курган узлез.***
***Пад снегам***
***Астанкі выпруціў Пегас.***
***Сягоння вешчым***
***мне Алегам***
***Над імі ўжо схіліцца час.***

***Я чэрап тоўк нагой абутай,***
***І уздыхаў журботна я.***
***Ды засталася непачутай***
***Мальба. Не выпаўзла змяя.***

***Я з кургана спусціўся ўдала,***
***Ўслед вешча***
***хтось прагаварыў:***
***— Кусаць зарана, бо замала***
***Строф бессмяротных***
***сатварыў!***

#### *Лясное здарэнне*

Што хоча мне сказаць
вавёрка,
Цікаўна глянуўшы з сасны?

**Віктар ЯРАЦ**

***Сцяжына змейкаю***
***з пагорка***
***Нырнула ў шызы***
***хмыз лясны.***
***Цікаўна зыркнула***
***вавёрка***
***З высока ўзнесенай сасны:***

***— Няўжо сам Ярац?***
***Чутны крокі!***
***Паэт якенны! Хоць зірну!***
***І падхапілі ўслед сарокі,***
***Панеслі лесам навіну.***

***І не было гучней***
***пашаны,***
***Як тая, чутая між хвой.***
***Ішоў сцягой паэт прызнаны,***
***Ды толькі***
***меншаю братвой!***



*Мой язык не мой вораг...*

*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

### Марцін КОЎЗКІ

## Доля праўды

"Яма", дзе расстралялі каля пяці тысяч мінскіх яўрэяў. Уражвае грунтоўнасць, з якой усё было зроблена, — у самы кароткі тэрмін, на маленькім кавалачку зямлі, калі пласты цел пакрывалі адзін другі і спатрэбілая мала зямлі, каб усё засыпаць... Якраз пра гэтую "дзелавітасць" немцаў камяні маўчаць.

●

"Я — "ганорыс каўзе", — сказаў пра сябе маўзер. — "Ты — дзень учарашні, — адказаў Калашнікаў. — Толькі будучае пакажа, хто сапраўдны "ганорыс каўзе". — "Падтрымліваю пачутае, — заўважыў камп'ютэр. — Калі новы век — з новай зброяй, дык што вы тады абое?"


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ,**
**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ —**
***намеснік галоўнага рэдактара,***
**Алесь ГАЎРОН —**
***адказны сакратар,***
**Мікола ГІЛЬ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП —**
***першы намеснік галоўнага рэдактара***

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фота-карэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**

***Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".***
***Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.***
***Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.***

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2806
Нумар падпісаны ў друк 10.5.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 2576

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М. 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12